



# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

20 мая 2016 года №21 **(1099)**


## Харэограф Крысціны Агілеры завітаў у Маладзечна

старонка 2

## Саляную пячору прывезлі ў Вілейку



старонка 3

## Чаму дзяўчынка ў тры гады адна ноччу гуляла па горадзе

старонка 4

## Маладзечанка – пра закуліссе чэмпіянату свету па хакеі

старонка 22



старонкі 20-21

Фота Настассі РОЎДЫ.

Былая беспрацоўная Марына Бязуглая з Маладзечна атрымала 16 мільёнаў субсідый ад дзяржавы і пачала ўласны бізнес.

# РЫНАК ПРАЦЫ: вакансій няма, але і скарачэнні не плануюцца

## Ураджэнку Мядзельшчыны падазраюць у забойстве

МЯДЗЕЛ, МІНСК

**Каля 5 гадзін раніцы 10 мая на пульт дзяжурнага Маскоўскага РУУС сталіцы паступіў тэлефонны званок ад занепакоеных жыхароў аднаго са шматкватэрных дамоў па вуліцы Чыгуначнай.**

Паведамілі пра тое, што па пад'ездзе ходзіць маладая жанчына з акрываўленымі рукамі і ў запэцканай крывёй вопратцы. Супрацоўнікі міліцыі ў адной з кватэр знайшлі маладога чалавека з рэзанай ранай шыі.

Неадкладна выклікалі "хуткую дапамогу" і спрабавалі рэанімаваць падчас пелага да прыбыцця медыцынскіх работнікаў. Аднак медыкі канстатавалі смерць.

Як патлумачыла 30-гадовая раней несудзімая ўраджэнка Мядзельскага раёна, пацярпелы быў яе знаёмым, да якога яна прыйшла ў госці. У нейкі момант падчас сумеснага распівання спіртных напояў паміж імі ўспыхнуў канфлікт, падчас якога той атрымаў смяротную нажавую рану ў вобласці шыі.

Малады чалавек у кватэры жыў разам з маці, аднак апошняя на выхадныя з'ехала да сваякоў, а яе 28-гадовы сын застаўся дома адзін.

Абставіны здарэння ўдакладняюцца. Узбудзілі крымінальную справу за забойства. Жанчына праходзіць як абвінавачаная і цалкам прызнае сваю віну. Ёй можа пагражаць пазбаўленне волі тэрмінам да 15 год.

**Аксана БУЦАЕВА, прэс-афіцэр Маскоўскага РУУС Мінска.**

## Апошні званок і выпускны аб'яўленыя ў Мінскай вобласці днямі цвярозасці

30 мая, а таксама 11 і 12 чэрвеня ў Мінскай вобласці па ініцыятыве міліцыі прынятае рашэнне аб абмежаванні рэалізацыі алкагольных напояў ва ўсіх без выключэння аб'ектах рознічнага гандлю.

Такое рашэнне прынятае ў мэтах недапушчэння надзвычайных здарэнняў пры правядзенні мерапрыемстваў, у якіх прыме ўдзел больш за 20 тысяч школьнікаў.

Пад узмоцнены кантроль будуць узятыя месцы, у першую чаргу зоны адпачынку, дзе сустракаюцца выпускнікі пасля ўрачыстых мерапрыемстваў у школах.

Летась пры правядзенні аналагічных мерапрыемстваў супрацоўнікі міліцыі і педагогі затрымалі больш за 20 непаўналетніх, большасць з якіх за ўжыванне алкагольных напояў, а таксама знаходжанне ў начны час у грамадскіх месцах без суправаджэння дарослых.

Некалькі нядобрасумленных прадаўцоў прыцягнуліся да адказнасці за гандаль спіртным падчас прынящця абмежавальных мер. У сувязі з гэтым варта нагадаць, што за парушэнне правілаў гандлю прадаўцам пагражае адказнасць у выглядзе штрафу ў суме ад 2 да 10 базавых велічынь.

УУС Мінскага аблвыканкама таксама прапануе грамадскасці неадкладна паведаміць у органы ўнутраных спраў пра факты продажу алкаголю ў названыя дні.

**Паводле uvd-mo.gov.by.**

## Вучняў з Вілейшчыны адзначылі за паветраных змеяў

ВІЛЕЙКА

У Мінску 6 мая адбыўся чацверты рэспубліканскі конкурс паветраных змеяў "Тэхна-Энергія". Прысвячаўся ён Дню Перамогі.

– У намінацыі "Уладар нябёсаў" дыпломам першай ступені адзначылі вучня Нарочкай сярэдняй школы **Данілу Шлойду**. Ён таксама наведвае гуртоК "Ракетамадэляванне" раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі, – паведаміў метадыст цэнтра **Анатоль Прыц**. – У гэтай жа намінацыі трэцяе месца заняў **Міхаіл Сачыўка** з Людвіноўскай СШ.

У складзе каманды раёна яшчэ выступілі **Данііл Доўгі**, **Юльян Гісіч** і **Клім Севярын**.

**Аддзел інфармацыі**

## У Мядзеле прызначылі намесніка старшыні райвыканкама

МЯДЗЕЛ

Ім стаў **Віктар Сіськевіч**. Па інфармацыі Мядзельскага райвыканкама, ён будзе курыраваць пытанні будаўніцтва і дарожнага комплексу, жыллёва-камунальнай гаспадаркі і іншыя.

Віктар Сіськевіч – мясцовы: родам са Свіры на Мядзельшчыне. Яму – 43 гады. Апошнім часам працаваў галоўным інжынерам ДЭУ №66.

**Аддзел інфармацыі.**

# Харэограф Крысціны Агілеры завітаў у Маладзечна

МАЛАДЗЕЧНА

**Доні "Крамбс" Каўнтс прыехаў у Беларусь у якасці суддзі на Міжнародны хіп-хоп фестываль, які праходзіў у Мінску. Падчас візіту танцор завітаў яшчэ ў Гомель ды Маладзечна, культурную сталіцу Беларусі.**



Амерыканец Доні "Крамбс" Каўнтс паказвае танцавальны рух.

Інтэрактыўная сустрэча з Доні Каўнтсам прайшла ў бібліятэцы сямейнага чытання "Верасок". На амерыканца прыйшлі паглядзець пераважна школьнікі, якія вывучаюць англійскую мову. Былі прадстаўнікі чатырох маладзечанскіх школ.

Танцор размаўляў на англійскай мове, побач стаяла перакладчыца пасольства ЗША **Вольга Цвяткова**. Дырэктар цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча **Марыя Ляцяга** прывітала госця. Выступленне ён пачаў з пытання, ці танцуе хто ў зале брэйк, малюе графіці, выконвае рэп. Аказалася, што большасць вучняў нечым займаецца. Амерыканец заўважна здзівіўся і пачаў расказваць пра хіп-хоп.

– Хіп-хоп – гэта не зусёды тое, што вы бачыце на тэлеэкране. Найчасцей гэта той імідж, які індустрыя забаў хоча прадаць усяму свету. Вам паказваюць зброю, агрэсіўныя моманты. Але ў хіп-хопе ёсць чатыры асновы: свет, любоў, аб'яднанне і жаданне атрымаць асалоду ад жыцця. Батлы танцоўць не для бітвы, а для павышэння майстэрства.

Сам хіп-хоп складаецца з некалькіх элементаў. Чытанне рэпу, ці рэчытатыў, танцы, дыджэінг ды малянне графіці. Яшчэ ёсць біт-боксінг – стварэнне музыкі голасам. Сёння пачалі гаварыць пра яшчэ адзін элемент – веданне. Бо трэба памятаць гісторыю хіп-хопу і ўмець вучыць самога сябе, – распавёў Доні Каўнтс.

Госць сам расказаў пра стварэнне гэтага культурнага напрамку. Ён зарадзіўся ў Нью-Ёрку, у раёне Бронкса. Складаўся з чатырох першых элементаў. Дыск-жакеі спалучалі дыджэінг і эмсіінг, накладваючы на музыку рэчытатыў. Першым гэта выкарстаў DJ Kool Herc. Пачуўшы брэйк пасля звычайнай музыкі, людзі выходзілі танцаваць у круг.

– Круг – цэнтр хіп-хопу, месца для аддачы і атрымання энергіі. Для супакаення і карыснага досведу. Трэба быць адважным, каб стаць у круг і адкрыцца свету, – падзяліўся амерыканец.

Ён распавёў, што сам прыйшоў у хіп-хоп у 1992 годзе, у дванаццаць гадоў. Убачыў, як старшакласнікі танцуюць. Паслядоўна пачаў вывучаць астатнія яго элементы.

– Для мяне гэта стала фактычна жыццём, я займаўся ў школе, падчас абеду. Хутка вырас у майстэрстве. Калі адчуваеце натхненне да чаго-небудзь, надавайце гэтаму больш часу. Напрыклад, я ў пачатку паставіў мэты: паездзіць па свеце, здымаць кліпы ды фільмы, быць добрым танцорам, – расказаў Доні Каўнтс.

Яшчэ ён удзельнічаў у фільмах "Каралі танцпадлогі", "Крок наперад 2: Вуліцы", "Танцы вуліц", "Як яна рухаецца". Але амерыканец выказаў меркаванне, што культуру хіп-хопу можна пабачыць толькі ў рэальным жыцці. Бо ў фільмах больш драмы, чым сапраўдных танцаў. Ды і тыя мантуюць.

– Калі хочаце ўбачыць свет, трэба ісці глядзець на яго ўжывую. Вось на мінскім фестывалі паказвалі сапраўдны хіп-хоп. Што тычыцца дыджэінгу і танцаў, у Беларусі вельмі высокі ўзровень, астатнія элементы бачыў менш, – распавёў Доні Каўнтс.

Сам ён працаваць у забаўляльнай індустрыі пачаў з сямнаццаці гадоў.

– Быў харэографам для першага альбома **Крысціны Агілеры**. Гэта вельмі крута, калі ты падлетак і табе сямнаццаць. Усё дзякуючы таму, што я ведаў, чаго хацеў. Таксама дзесяць гадоў быў адзіным пастаноўшчыкам танцаў для групы Black Eyed Peas. Ездзіў з імі ў сусветныя турнэ. Гэта накладвае велізарную адказнасць на танцора. Калі вам выдзяляюць уласны час, каб паказаць сябе як мастака. Таксама ставіў танцы для **Джасціна Цімберлэйка** ды **Місі Эліят**. А яшчэ ніколі не абмяжоўваў сябе хіп-хопам, працаваў і з рокам, і з рэгі.

Пасля адказаў на пытанні гледачоў, амерыканец правёў невялікі майстар-клас для ахвотных. Паказаў некалькі рухаў, станцаваў сам. Гэта было надзвычай выразнае дзеянне. А потым яшчэ паўгадзіны фатаграфаваўся і ставіў подпісы, хаця спазняўся на чарговую сустрэчу.

**Таццяна КАСЬЯН.**

**Даведка "РГ".**
**Крысціна Агілера** – амерыканская спявачка, аўтар песень, танцорка, актрыса.
**Джасцін Цімберлэйк** – амерыканскі поп- і R & B-спявак, кампазітар, прадзюсар, танцор і акцёр.
**Місі Эліят** – амерыканская спявачка, рэпер, аўтар песень і музычны прадзюсар.



Фота Таццяны КАСЬЯН.

Майстар-клас ад Доні "Крамбс" Каўнтса для маладзечанскіх школьнікаў.



Фота Таццяны КАСЬЯН.

Фота на памяць для ўдзельнікаў майстар-класа.

# Саляную пячору прывезлі ў Вілейку

ВІЛЕЙКА

**Гэта можна зрабіць у Вілейскім дзяржаўным каледжы. Тут з'явіўся спелеапакой – у ім створаныя ўмовы салянай пячоры.**



Фота Святланы МАЦКЕВІЧ.

У спелеапакоі навучэнкі каледжа Ганна Завіленская і Ганна Кляшняк.

– Ідэя адкрыць такі пакой з'явілася год пяць таму. Тады ўпершыню трапіў у шахту, дзе здабываюць калійную соль, – расказвае дырэктар каледжа **Ігар Кіцікаў.** – Зрабілі запыт на "Белкалій", каб прадалі дзве тоны сільвініту для адкрыцця пакоя. Але адказалі, што гэта немагчыма.

Потым супрацоўнікі каледжа пабывалі ў салявых шахтах Вялічка ля Кракава, пабачылі, як там пад зямлёй працуюць гасцініцы, рэстараны, капліцы. Неўзабаве дырэктар наведаў спелеалячэбніцу ў Салігорску. Там дзеці гуляюць у тэніс, чытаюць, глядзяць тэлевізар – і разам з гэтым аздараўліваюцца.

Ідэя адрадзілася. Зноў падалі заяўку на "Белкалій". На гэты раз дазволілі набыць сільвініт. І пасля доўгіх афармленняў прывезлі ў Вілейку больш за дзве тоны.

– Кавалкі былі з конскую галаву – такія вялікія нам і не трэба былі. На станку выразалі, абшылі сцены пакоя драўлянай рашоткай і пад яе паклалі кавалкі сільвініту. Пакой рабілі не для камерцыйнага выкарыстання: ён прызначаны для аздараўлення супрацоўнікаў і навучэнцаў каледжа, – кажа Ігар Кіцікаў. – Наколькі ведаю, у Вілейцы такога пакуль не было – мо, пасля нас яшчэ хто зацікавіцца. Бо набыць сільвініт і абсталяваць пакой – гэта нядорага, а карысць для здароўя вялікая.

Адразу пакой апрабавалі на сабе. Пару супрацоўнікаў з праблемамі з дыхальнымі шляхамі прымаюць спелеаванны – адчуваюць сябе нашмат лепш. Лічаць, што пакой будзе дарэчы для ўмацавання здароўя навучэнцаў – многія з іх хварэюць зімой.

– Спелеапакой размясцілі ў майстэрнях, дзе вучаць пакаёвак. У добрых гасцініцах за мяжой ёсць спелеапакоі – трэба, каб і нашы пакаёўкі ведалі, што гэта такое, – тлумачыць Ігар Кіцікаў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Спелеапакой – спецыяльна абсталяванае памяшканне, у якім ствараюцца ўмовы салянай пячоры (спелеашахты). Лячэбнае асяроддзе, насычанае сухім аэразолем хларыду натрыю з перавагай (да 90%) дробных часціц, якія трапляюць у самыя глыбокія аддзелы дыхальных шляхоў, аказваюць уздзеянне на аднаўленне функцыі бронхаў і вонкавага дыхання. Спелеатэрапію прызначаюць хворым з захворваннямі органаў дыхання, а таксама гіпертанічнай хваробай, захворваннямі суставаў.

## Вуліца Снежная ў Маладзечне: маршрут змянілі, прыпынак паставяць пазней

МАЛАДЗЕЧНА

**Да нас у рэдакцыю патэлефанаваў чытач Станіслаў Абрамовіч. Хлопец быў абураны:**

– На вуліцы ідзе дождж. А на Снежнай не толькі няма, куды схавацца ад дажджу, але няма і раскладу руху аўтобусаў, каб ведаць, колькі яшчэ тут давядзецца мокнуць!

Пракаментаваць сітуацыю мы папрасілі адміністрацыю аўтапарка №4.

– Як не вісіць расклад? – здзівіўся намеснік дырэктара па пасажырскіх перавозках аўтапарка №4 **Віктар Руткоўскі**. – Расклад руху мы павесілі там месяц таму. Не ведаю, магчыма, хто зняў ужо. Праверым, разбяромся.

**16 мая на прыпынку расклад руху не вісеў.**

Намеснік галоўнага інжынера ўпраўлення капітальнага будаўніцтва **Марына Доўнар** растлумачыла, што прыпынкі прадугледжаныя праектнай дакументацыяй да дамоў, якія цяпер будуюцца па вуліцы Снежнай.

Дамы будуць уведзеныя 30 чэрвеня. А значыць, да гэтага часу з'явяцца і прыпынкі.

**Наталля ТУР.**



Фота Наталлі ТУР.

16 мая раскладу руху аўтобусаў на вуліцы Снежнай не было.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 12.05 | 19.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 19 461,00 | **19 375,00** |
| Еўра | 22 165,00 | **21 823,00** |
| Злоты | 5 023,85 | **4 996,75** |
| Расійскі рубель | 293,67 | **297,71** |
| Грыўня | 772,49 | **762,33** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 18.05** | | |
| Еўра | 21800/22300 | **21500/21840** |
| Долар ЗША | 19100/19600 | **19220/19450** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 11.05 | 18.05 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 179 800 | **143 500** |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | **58 500** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28 500 | **28 500** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 80 000 | **80 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 42 500 | **42 500** |
| Селядзец, 1 кг | 57 000 | **57 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 138 000 | **135 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 500 | **14 500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 21 500 | **21 500** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дзясятак | 16 500 | **16 500** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 24 000 | **24 000** |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | **6 600** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **38 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | **14 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 11 500 | **11 500** |
| Часнок, 1 кг (малады) | 79 500 | **75 000** |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 12 500 | **11 000** |
| Морква, 1 кг (маладая) | 12 900 | **13 500** |
| Баклажаны, 1 кг | 42 000 | **54 500** |
| Лімоны, 1 кг | 47 900 | **48 000** |
| Апельсіны, 1 кг | 24 900 | **22 000** |
| Мандарыны, 1 кг | 39 500 | **35 000** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 27 500 | **27 500** |
| Ківі, 1 кг | 29 500 | **28 500** |
| Буракі, 1 кг | 6 000 | **6 000** |
| Памідоры, 1 кг | 33 000 | **30 000** |
| Агуркі, 1 кг | 21 500 | **15 900** |
| Перац, 1 кг | 70 000 | **74 900** |
| Радыска, 1 кг | 17 500 | **14 900** |
| Кабачок, 1 кг (малады) | 24 500 | **16 900** |
| Вінаград, 1 кг | 45 000 | **40 000** |
| Бананы, 1 кг | 27 000 | **27 000** |
| Гранаты, 1 кг | 34 500 | **34 500** |
| Яблыкі, 1 кг | 12 500 | **13 000** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 33 000 | **32 900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг (маладая) | 2 500 | **16 900** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | **20 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

## Знайдзіце для падлеткаў на лета занятак

МАЛАДЗЕЧНА

**Акцыя "Клопат" праходзіць ад 1 мая да 1 кастрычніка.**

Пра гэта распавёў "РГ" начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх Маладзечанскага РАУС **Сяргей Шытыка**.

У яе межах моладзь будуць імкнуцца ўсяляк прыцягнуць да актыўнасці, арганізоўваць гурткі і секцыі, лагеры.

У маладых людзей пры жаданні ёсць магчымасць уладкавацца на лета на працу. У горадзе дзяўчат могуць накіраваць, напрыклад, у зелянгас на высадку кветак. Хлопцаў уладкаваць грузчыкамі ці падсобнымі рабочымі.

Па пытаннях працаўладкавання падлеткаў звяртайцеся ў камісію па справах непаўналетніх райвыканкама.

Настасся РОЎДА.

## Што трэба ведаць перад тым, як адпраўляць дзіця ў лагер

**Блізіцца лета – самы час узгадаць асноўныя рэчы, якія дапамогуць правесці яго без непрыемных прыгодаў.**

Упраўленне ўнутраных спраў Мінаблвыканкама дае бацькам і дзецям парады, якія могуць папярэдзіць канфлікты.

### Бацькам

1. Праверце асабістыя рэчы дзіцяці, раптам знойдзеце там цыгарэты ці алкаголь.
2. Памятайце, дарагі тэлефон можа выклікаць зайдрасць і спраакаваць крадзеж.
3. Ведайце, што недапушчальна, каб дзеці рознага ўзросту жылі разам.
4. Рэагуйце на любую інфармацыю пра парушэнне праў дзіцяці.
5. Пры ўзнікненні непаразуменняў, звяртайцеся да дырэктара лагера.
6. Падаўлены настрой, сінякі і драпіны – нагода звярнуцца да кіраўніцтва лагера.
7. Не заахвочвайце, каб ваша дзіця ў лагеры наведвалі сябры.
8. Не забывайце, што вы несяце поўную адказнасць за ўчынкі дзіцяці.
9. Памятайце, што за ўжыванне алкаголю і курэнне ў нявызначаных месцах прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць.
10. Стаўцеся з паразуменнем да мер бяспекі, прадугледжаных у лагеры.

### Тое, што трэба даць пачытаць дзецям

1. Пакіньце каштоўныя рэчы дома.
2. Не кідайце рэчы без нагляду ў выпадковых месцах.
3. Паведамляйце міліцыянеру ці важатаму пра любыя падазроныя прадметы.
4. Не размаўляйце с незнаёмымі, а калі іх заўважылі, кажыце важатаму ці супрацоўніку міліцыі.
5. Не выходзьце самавольна за тэрыторыю лагера.
6. Не заводзьце выпадковыя знаёмствы з мясцовай моладдзю.
7. Звяртайцеся да міліцыянера ці адміністрацыі лагера пры ўзнікненні канфліктаў.
8. Не будзьце раўнадушнымі, калі пакрыўдзілі кагосьці з дзяцей, паведамляйце пра гэта міліцыянеру ці важатаму.
9. Распавядайце бацькам пра любыя здарэнні, якія адбываюцца з вамі ў лагеры.
10. Не забывайце, што ў выпадку парушэння закона вы будзеце прыцягнутыя да адказнасці і адлічаныя з лагера.

Таццяна КАСЬЯН.





# Чаму дзяўчынка ў тры гады адна ноччу гуляла па горадзе

МАЛАДЗЕЧНА

**Гучны выпадак адбыўся ў Маладзечне ноччу 11 мая.**



Фота look.com.ua.

У сацыяльных сетках гісторыя атрымала вялікі розгалас. Шмат хто задумаўся пра тое, наколькі важная пільнасць у выхаванні дзіцяці.

У міліцыю каля 00:20 патэлефанаваў мужчына, які выгульваў сабаку. Ён заўважыў дзяўчынку прыкладна трохгадовага ўзросту, якая без бацькоў, босая, лёгка апранутая, ішла па вуліцы ў раёне Бухаўшчыны.

Пра гэта распавёў "РГ" намеснік начальніка Маладзечанскага РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні **Уладзімір Васількоў**.

Супрацоўнікі міліцыі выехалі на месца. Дзяўчынку адвезлі ў прыёмны пакой дзіцячай бальніцы, а пасля змясцілі ў аддзяленне.

Тады яшчэ не было вядома ні яе прозвішча, ні імя па бацьку, ні дакладны ўзрост.

– Нам сказалі толькі тое, што яе завуць **Ангеліна**, – распавёў загадчык дзіцячай гарадской бальніцы **Сяргей Рылаў**.

**Здароўе яе было ў парадку, але абследаванне працягвалі.**

### Чаму Ангеліна была не дома

Мы адшукалі бацьку Ангеліны **Станіслава**, які патлумачыў, чаму так здарылася, што дзяўчынка ноччу была не дома.

У гэты дзень ён разам з маці дзяўчынкі знаходзіўся ў прыватным доме бацькоў, дапамагалі з градамі. Дамоў вырашылі не ехаць.

Увечары бацькі Ангеліны пасварыліся.

– Рознае ў жыцці бывае, самі ведаеце, – распавядае Станіслаў. – **Вікторыя** сышла. Бабулі дома не было, з'ехала ў вёску. Засталіся я, Ангелінка і дзядуля. Мы ляглі спаць у адным пакоі. Ангелінка была побач, глядзела мульцікі, таксама заснула. Дзверы мы пакінулі прыадчыненыя, лета на двары. Так і атрымалася, што Ангеліна прачнулася і выйшла, а мы і ведаць не ведалі.

Станіслава і дзядулю каля гадзіны ночы наведала міліцыя. Распавялі, што дзяўчынка адна ішла па вуліцы, і яе адвезлі ў бальніцу. Але Станіслаў, хоць і біялагічны бацька, афіцыйна ім не запісаны. Дзяўчынку магла забраць толькі маці, якая на той час яшчэ не вярнулася.

У панядзелак, 16 мая, стала вядома, што Вікторыя знайшлася. Але Ангеліна будзе заставацца ў бальніцы, пакуль пытанне з яе вяртаннем не вырашыцца на пасяджэнні камісіі па справах непаўналетніх Маладзечанскага райвыканкама.

Настасся РОЎДА.

## Паскардзілася міліцыі, што муж сеў за руль нецвярозы

МАЛАДЗЕЧНА

Жыхарка Маладзечанскага раёна пазваніла ў міліцыю каля 18:00 у нядзелю, 15 мая.

Яна распавяла, што 38-гадовы муж на аўтамабілі "Дэа-Маціз" паехаў нецвярозы невядома куды.

Міліцыя затрымала яго ў Маладзечне на вуліцы Будаўнікоў.

Як высветлілася, канцэнтрацыя пароў абсалютнага этылавага спірту ў выдыху склала 1,38 праміле.

Кіроўца патлумачыў, што ў сябра выпіў каля 300 грамаў гарэлкі, пасля чаго з'явілася неабходнасць з'ездзіць у Маладзечна.

Аўтамабіль адправілі на штрафстаянку. На яго выкарыстанне наклалі арышт.

Склалі пратаколы за кіраванне ў нецвярозым стане і за адсутнасць рэгістрацыйных дакументаў.

## Уехаў у асвятляльную мачту

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося ў суботу, 14 мая, каля 20:00.

26-гадовы віляйчанін на "Шкодзе-Актавіі" ехаў у Маладзечне па вуліцы Тамары Дудко ў накірунку Вялікага Гасцінца па крайняй левай паласе.

Калі ён набліжаўся да дома №158 па Вялікім Гасцінцы, на закругленні дарогі ўправа не справіўся з кіраваннем. Аўтамабіль вынесла на правую абочыну ў асвятляльную мачту.

Кіроўца цэлы.

Пашкоджаныя аўтамабіль і асвятляльная мачта.

## Выехала на сустрэчку

МАЛАДЗЕЧНА

Аварыя адбылася ў нядзелю, 15 мая, каля 16:15.

21-гадовая кіроўца, жыхарка Мінскага раёна, на "Пежо-605" ехала па аўтадарозе Алёхнавічы-Папоўшчына.

На другім кіламетры на закругленні дарогі ўлева на ўчастку з горкай няправільна выбрала хуткасць руху і не справілася з кіраваннем. Аўто вынесла на сустрэчную паласу, па якой ехаў 24-гадовы кіроўца "Аўдзі", жыхар Маладзечанскага раёна.

У аварыі пацярпелі 26-гадовая пасажырка "Пежо-605", жыхарка Маладзечанскага раёна, і 56-гадовая пасажырка "Аўдзі". Пасля аказання медыцынскай дапамогі іх адпусцілі дамоў.

Абедзвюм пацярпелым давялося накладаць швы.

ДАІ праводзіць праверку.

## Здарылася аварыя з удзелам трох аўтамабіляў

МАЛАДЗЕЧНА

ДТЗ адбылося ў нядзелю, 15 мая, каля 14 гадзін дня.

50-гадовы кіроўца "Пежо-607", жыхар Маладзечанскага раёна, ехаў па Віленскай у крайняй левай паласе ў накірунку плошчы Старое Места. На пуцеправодзе яго аўтамабіль заглух і не завёўся. Кіроўца выйшаў, паставіў знак аварыйнай стаянкі, сеў назад у машыну і стаў чакаць дапамогі.

У той жа паласе аўто ехалі адно за адным. Кіроўца першага стаў перастройвацца ў крайнюю правую паласу. 27-гадовы малады чалавек, які ехаў за ім на "Пежо-406", не бачыў загадзя перашкоды. Ён пачаў тармазіць, але, як толькі спыніўся, адчуў удар ззаду.

У яго ўехала 31-гадовая маладзечанка на "Фольксвагене-Гольфе", якая не паспела спыніцца, таму што адлегласць да "Пежо" была замалой.

Ёй далі штраф за тое, што не трымала бяспечную дыстанцыю.

Пра здарэнні распавёў дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**.

Настасся РОЎДА.

# Юбілейны фестываль "Час жыць" аддзяляў моладзь ад плоскасці

## У Маладзечне 13-15 мая прайшоў фестываль моладзевых творчых ініцыятыў "Час жыць"

**Форум пачаўся ў Палацы культуры. Гэты год юбілейны – фестывалю споўнілася пяць гадоў. Ён пачаў існаваць дзякуючы ініцыятыве моладзевага клуба зносін і творчасці пры Палацы культуры "Дыялог+".**



Фота Таццяны КАСЬЯН.

Аліса Лушчык, дачка пераможцы інтэрнэт-галасавання ў фотавыставе "Чалавек Побач" Алесі Лушчык. Злева на сцяне вісіць работа мамы "Арэлі дзяцінства", з якой яна і перамагла.

– На нашых вачах праходзіць жыццё, але мы яго суаўтары. Трэба адчуць паветра жыцця, – прапанавала арганізатар на канферэнцыі падчас фестывалю **Марына Валасковіч**.

### Інсталяцыя

Форум пачаўся з прагляду арыгінальнай інсталяцыі "Чалавек: вымярэнні жыцця". Чалавечыя фігуры, зробленыя з розных матэрыялаў, стаялі паўсюль у Палацы культуры. Гледачоў групамі вадзілі па паверхахды расказвалі пра кожную з іх.

Усяго былі прадстаўленыя чатыры вымярэнні: фізічнае адлюстроўвае чалавечае цела і адносіны да яго. У сацыяльным вымярэнні паказалі ўзаемаадносіны людзей. Насупраць абрысаў ў выглядзе сям'і знаходзіліся фігуры, у якіх замест галоў была тэхніка. Як распавяла валанцёр, усялякія гаджэты моцна ўплываюць на сацыяльныя адносіны, бо перацягваюць увагу на сябе.

Вымярэнне духоўнае – гэта нашы прынцыпы, жаданні і вера. Асабістае адлюстроўвала ўнутраны свет чалавека. Гледачы маглі пабачыць каменную сцяну з пустой прасторай ў выглядзе чалавека пасярэдзіне. Праз яе можна было прайсці, каб сімвалічна забыцца пра праблемы.

### Як мы напаўняем жыццё ілюзіямі

Прадоўжыўся фестываль канферэнцыяй "Свабода быць чалавекам". Некаторыя з удзельнікаў прыехалі з замежжа. Былі госці з Севастопаля, Растова-на-Доне, Пензы, Польшчы.

Першай выступіла дырэктар Палаца культуры **Святлана Сарока**. Яна паведаміла, што мэта форуму – стварыць умовы для знаёмстваў і зносін. Бо цяпер амаль кожны мае доступ ў інтэрнэт, і жывое слова гучыць мала.

Завітала на форум і **Яўгенія Цімашэнкава** – псіхолаг, выкладчыца факультэта псіхалогіі БДУ.

– Мы не паспяваем атрымліваць асалоду ад усіх радасцяў жыцця. Чалавек схільны напаўняць жыццё ілюзіямі. "Яшчэ пару хвілін, і дакладна высплюся", "яшчэ адзін кубачак кавы, і пачну працаваць". Няма больш удалага моманту, чым "проста зараз", – матывавала яна. – У кожнага ёсць залежнасці, "любіменькія грабелькі", але іх аснова – страх. Людзі выпускаюць з поля зроку, што яны каштоўныя толькі фактам свайго існавання.

На канферэнцыі выступіла расійская паэтка **Марына Герасімава**. Яна з'яўляецца членам Саюза пісьменнікаў Расіі і куратарам паэтычнага клуба "Берагі". Марына прачытала свае вершы і падзялілася, што ў свеце паэзіі адпачывае.

Выступіла і рэгіянальны каардынатар **Марыя Шарый** кампаніі "Будзьма беларусамі". Нагадала пра фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі "Аднак", які праходзіць ужо сёмы раз.

Пасля канферэнцыі гледачы наведалі фотавыставу "Чалавек побач". У ёй прынялі ўдзел як прафесіяналы, так і аматары. "Плынь" **Віктара Ешчанкі** заняла першае ганаровае месца.

### Кінапаказ

Напрыканцы першага дня фестывалю "Час жыць" на падворку музычнага вучылішча адбыўся начны кінапаказ. Каб гледачы не змерзлі за праглядам фільмаў, іх частавалі гарбатай.

Паказалі фільм маскоўскага рэжысёра **Ніны Вядміцкай** "Нявывучаны ўрок 14/41", які атрымаў Гран-пры ў намінацыі гульнявога кіно. Што тычыцца негульнявога, то закадравая ўздзяка **Івана Бялкова** перамагла ў намінацыі "Чалавек справы", ролік **Святланы Кіслай** "Пакуль мы маладыя" – у намінацыі "Буйны план".

### Аратарскі батл

Наступны дзень быў таксама багаты на сюрпрызы. У парку працавалі творчыя пляцоўкі, а пазней там пачаўся аратарскі батл.

**Любоў Сямёнава** ўзяла першае месца ў намінацыі "Паэтычны батл" з вершам **Веры Палазковай** "Раскажы мне". **Сяргей Соніч** з маналогам "Шануйце час" скарыў публіку і заняў першае месца ў намінацыі "Публічная гаворка".

Другая частка аратарскага батла мела назву "Свабодны мікрафон". Кожны ахвотны мог падзяліцца з астатнімі тым, што хацеў дадаць.



Фота Таццяны КАСЬЯН.

Удзельнік музычнай рок-групы Element Андрэй Капцюг.

### Рок-блок

Пасля ў гэты ж дзень у рамках фестывалю прайшоў рок-блок. Гурт Element узяў трэцяе месца. На другім апынуліся Post feed. Ганаровае першае месца журы аддало калектыву "Планета ўсіх".

Удзельнікі "Планеты" прыехалі з Вілейкі. Хлопцы спяваюць ў розных стылях: ад рэгі да рок-н-ролу. Сярод іх музычных інструментаў прысутнічаюць старадаўняя дарбука – невялікі барабан, дуда, а таксама джэмбе. Гэта барабан у форме кубка, на якім іграюць рукамі.

### Не бойцеся жыць

Увечары адбыўся гала-канцэрт. І нават тое, што нечакана пайшоў дождж, не спужала гледачоў. Можна было пабачыць выступленне моладзевага камернага аркестра з польскага горада Петрыкаў-Трыбунальскі, кіраўнік **Эва Ізыдорчык-Гжэлак**. Ён іграў незвычайна зладжана. Прагучала шмат творчых нумароў.

Паралельна з канцэртам праводзілася ўзнагароджванне пераможцаў конкурсных праграм фестывалю. Прызы, якія ўручалі лаўрэатам, распрацавалі ўдзельнікі клуба "**Дыялог+**". Гэта сувеніры ў выглядзе чалавека, які выходзіць са сцяны.

– Не бойцеся аддзяліцца ад плоскасці, рухайцеся да сваёй мэты, – прапанавала арганізатар фестывалю.

Кожны год моладзевы клуб зносін і творчасці прыдумвае новыя сувеніры. Летась гэта быў насценны гадзіннік, зроблены з вінілавага дыска.

Скончыўся канцэрт спяваннем гімна "Час жыць" навучэнцамі музычнага вучылішча імя Міхала Клеафаса Агінскага.

У апошні дзень фестывалю людзі змаглі паўдзельнічаць у квэсце ды наведаць інтэрактыўную праграму па танцах. А таксама прыйсці на трэнінг па самапазнанні **Арцёма Зайцава** і майстар-клас па кантактнай імправізацыі **Вікторыі Ігнаценкі**.

Таццяна КАСЬЯН.

### Чаму фестываль "Час жыць" прыцягвае валанцёраў

Адна са шматлікіх валанцёраў фестывалю **Ангеліна Чурыніна** падзялілася, чаму вырашыла дапамагаць у яго правядзенні.

**– Ангеліна, як ты даведалася пра фестываль "Час жыць"?**

– Выпадкова. Мне распавяла мая цётка, калі арганізатар фестывалю **Марына Валасковіч** шукала валанцёраў. Я сама па сабе творчы чалавек: спяваю, танцую, вучылася ў тэатральным класе.

**– Чаму вырашыла стаць валанцёрам?**

– Я заўсёды гатовая дапамагчы ў правядзенні такіх класных мерапрыемстваў. Лічу, што людзі ідуць у валанцёры з-за дапамогі астатнім у цяжкія для іх хвіліны зносінаў – без гэтага жыццё нецікавае. Новыя знаёмствы, пазнанне самога сябе і іншых нікому не перашкодзіць у жыцці.

**– Ці моцна стамляюцца валанцёры фестывалю?**

– Стомленасць, вядома ж, прысутнічае, але мы павінны несці людзям радасць. Таму ў нас няма часу задумвацца пра тое, што нехта з нас стаміўся.

## "У кожную песню ўкладваеш частку душы"

### Памёр удзельнік вілейскай групы "Браты-славяне" Міхаіл Ермаковіч

ВІЛЕЙКА

**Міхаіла Ермаковіча не стала 13 мая – было яму 44 гады.**



Фота з архіва групы "Браты-славяне".

Не стала Міхаіла Ермаковіча.

Міхаіл быў удзельнікам ансамбля народнай музыкі "Весялінка" Вілейскага Палаца культуры, групы "Парламент", апошнім часам – групы "Браты-славяне". Працаваў выкладчыкам музыкі вілейскай гімназіі №2.

– Міхаіл – цудоўны, добрай душы чалавек, таленавіты музыка, выдатны настаўнік. Ён вельмі любіў беларускую спадчыну, шмат увагі надаваў фальклору, – кажуць пра яго калегі ў гімназіі №2.

– Ён быў цудоўным музыкантам і сапраўдным сябрам, – дадае ўдзельнік групы "Браты-славяне" **Сяргей Скаражонак**.

Пахавалі Міхаіла ў вёсцы Любань на Вілейшчыне.

#### Што расказваў Міхаіл у інтэрв'ю "РГ" два гады таму пра групу "Браты-славяне"

"Браты-славяне" як група сфарміраваліся падчас працы для душы. Гэта было як хобі. Мы ніколі не ставілі сваю творчасць на канвеер. Ніхто не падганяў: трэба для перадачы нешта напісаць ці канцэрта. Галоўнае – не рамеснічаць. Ёсць натхненне – напісаў, а няма нічога арыгінальнага, лепей не брацца.

**Пра ўдзел у дабрачынных канцэртах**

Як жа ў такой справе адмовіш? Тым больш, што дабрачынныя канцэрты дадаюць сілы.

**Пра жыццё ў Вілейцы**

Я нарадзіўся ў Маладзечне. Жыву ў Вілейцы, прыжыўся ўжо. Тут неяк больш спакойна. Такая абстаноўка спрыяе разуменню свайго месца ў жыцці.

**Пра любоў да народнай песні**

Каб у 1995 годзе мне хтосьці сказаў, што буду любіць народную песню, то не паверыў бы. Але, тым не менш, гэта адразу вылілася ў такую цярпімасць, а потым і ў любоў.

**Любімая песня з рэпертуару "Братоў-славян"**

У нас ёсць аднайменная песня "Браты-славяне". Не скажаш, што яна самая лепшая, але для мяне яна каштоўная, бо адлюстроўвае нашы думкі. У кожную песню ўкладваеш частку душы, таму яны ўсе для нас любімыя".

Аддзел інфармацыі.

# У Іжы малявалі дом мары і ўзважваліся сем'ямі

ВІЛЕЙКА

**У нядзелю, 15 мая, у Іжы на Вілейшчыне святкавалі дзень сям'і. Правялі яго на вуліцы Новай. Сабраліся там маладыя сем'і з усёй вёскі.**



Фота забяспечанае Іжанскім сельвыканкамам.

На свяце ў Іжы дзятву весяліў клоўн.

Павіншавалі іх са святам старшыня Іжанскага сельвыканкама **Валянціна Навасёлак** і дырэктар мясцовага сада-базавай школы **Святлана Хадановіч**. Вучні выступілі з канцэртнай праграмай.

Работнікі сельвыканкама **Тацццяна Верамей** і **Іна Смаленская** правялі конкурсы. На асфальце дзеці і дарослыя малявалі дом сваёй мары. А ў падмурку запісвалі каштоўнасці, на якіх трымаюцца іх сем'і – выводзілі словы "каханне", "узаемападтрымка", "падтрымка", "давер".

Конкурсы былі рознымі: ад інтэлектуальных гульняў да конкурсу на самую вялікую сям'ю. У ім узважваліся ўсёй сям'ёй.

– Жарты, вясёлы смех гучалі на працягу ўсяго свята. Дзеці былі ў захапленні ад сапраўднага клоўна. У ім нават дарослыя не адразу пазналі кіраўніка гуртка Лыцавіцкага СДК **Веру Дземеш** – чалавека творчага і таленавітага, – кажа Валянціна Навасёлак.

Усе сем'і, якія актыўна ўдзельнічалі ў конкурснай праграме, атрымалі падарункі. Сельвыканкам адзначыў шматдзетную сям'ю **Анатоля** і **Тацццяны Місюль** за лепшы моладзевы падворак, дзе ўсё створанае іх рукамі.

Спонсарам свята стала Вілейская раённая арганізацыя "Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжа". Салодкімі пачастункамі, як заўсёды бывае ў святы, парадавала дзятву мясцовае таварыства "Чурлёны".

– Найбольш адметнае тое, што ўдзельнічалі ў конкурсах і дзеці, і бацькі. Гэта згуртавала сем'і, – лічыць **Тацццяна Верамей**. – Свята не змог сапсаваць нават дождж, бо нашы маладыя сем'і імкнуцца да таго, каб надвор'е ў іх дамах заўсёды было сонечным.

### Вызначылі лепшую шматдзетную сям'ю года

МЯДЗЕЛ

У Мядзеле 12 мая прайшоў традыцыйны конкурс на лепшую шматдзетную сям'ю. Удзельнічалі сем сем'яў.

Конкурс праводзілі па чатырох намінацыях. Удзельнікі расказвалі пра традыцыі сям'і і рэгіёна, захапленні і здольнасці. Прадстаўлялі поспехі ў выхаванні і адукацыі дзяцей. Дзяліліся, як вядуць здаровы лад жыцця. На выставе паказвалі зробленыя сваімі рукамі вырабы і кулінарныя шэдэўры.

У выніку перамаглі прадстаўнікі Сваткаўскага сельсавета – сям'я **Маціных** з вёскі Брусы. Аляксей і Вераніка выхоўваюць траіх дзяцей.

Алесь ВЫСОЦКІ.

## Беларускую саломку ацанілі ў Расіі

**Юныя рукадзельніцы з Маладзечна атрымалі дыплом трэцяй ступені ў міжнародным конкурсе.**

**Аліна Жогаль, Лізавета Поклад** і **Аліна Каленік** ужо шмат гадоў займаюцца ў гуртку "Народныя крыніцы" пры цэнтры творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік", але ў міжнародным конкурсе ўдзельнічалі ўпершыню.

Нават больш за тысячу кіламетраў не сталі перашкодай на шляху да перамогі. Першакрасавіцкі конкурс дзіцячага гумарыстычнага малюнка "Катавасія" адбыўся ў горадзе Сцерлітамак, што ў Рэспубліцы Башкартастан.

– Аплікацыю прыйшлося слаць па пошце. Мы так хваляваліся, што ледзь не кожны дзень у інтэрнэце адсочвалі, дзе знаходзіцца наша работа, – расказала Аліна Жогаль.

Кіраўнік гуртка **Вольга Маслава** даведалася пра конкурс зусім выпадкова, блукаючы па прасторах інтэрнэту. Дзяўчынкі з радасцю пагадзіліся. За два тыдні навучэнкі зрабілі цудоўную саламяную аплікацыю "Гульня". На ёй вясёлы кот бавіцца з мытыльком.

Дыплом за перамогу даслалі па электроннай пошце. Усе былі здзіўлены, убачыўшы на ім дату 31 красавіка. Хто ведае? Можа, гэта выпадковая памылка, а можа, сапраўдны першакрасавіцкі жарт.

Дар'я СВІРЫДА,
школа журналістыкі
"Маладзік".

● НАВІНЫ

### "Фарсаж" узнагародзілі на фестывалях

ВІЛЕЙКА

Танцавальны калектыў "Фарсаж" з Вілейкі вярнуўся з узнагародамі з міжнароднага фестывалю дзіцячых танцавальных калектываў "Свет зрабіўся добрым". Праходзіў конкурс у канцэртнай зале "Мінск" у сталіцы.

"Фарсаж" заняў другое месца з танцам "Сонечнае зацьменне". Вызначыліся віляйчане ў намінацыі "Эстрадны танец" (змешаная група).

– Было вельмі шмат камандаў. Сапернічалі з моцнымі, са званнем "узорны" калектывамі. Ад конкурсу і выступлення засталося мора эмоцый, – расказала кіраўнік "Фарсажу" **Алеся Раздзялоўская**.

А 15 мая "Фарсаж" удзельнічаў у рэспубліканскім фестывалі ў Мінску "Мы разам". Дарослыя ўдзельнікі калектыву заваявалі першае месца з усходнім танцам, трэцякласнікі з гімназіі №1 "Логас" – другое месца з хіп-хопам.

На 20 мая намечаны справаздачны канцэрт калектыву.

### У Мядзеле на "Ноч музеяў-2016" пройдзе гульня-квэст

МЯДЗЕЛ

У Мядзельскім музеі народнай славы 21 мая пройдзе святочнае мерапрыемства ў межах акцыі "Ноч музеяў-2016". Называецца яно "Чароўная ноч у храме музы Кліа".

Адбудзецца выстава габеленаў мастачкі **Ніны Пілюзінай**.

– Чакаецца, што яна прыедзе на прэзентацыю выставы, – расказала выканальніца абавязкаў дырэктара музея **Наталля Бурак**.

Яшчэ пройдзе выстава драўлянай скульптуры мядзяльчаніна **Аляксандра Куцкевіча**.

Наведнікі змогуць выйграць прызы, калі паўдзельнічаюць у гульні-квэсце па экспазіцыі музея – трэба будзе адказаць на розныя пытанні, рашыць шарады і загадкі.

Пачнецца мерапрыемства ў 19 гадзін.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Педагог з Вілейкі стала лаўрэатам міжнароднага конкурсу-фестывалю

ВІЛЕЙКА

Педагог дадатковай адукацыі Вілейскага дзяржаўнага каледжа **Дыяна Хвалько** стала лаўрэатам другой ступені восьмага міжнароднага конкурсу-фестывалю "Культурная сталіца" ў напрамку "Вакал: джаз (сола)". Конкурс праходзіў 2-8 мая ў Санкт-Пецярбургу. У 2015 годзе Дыяна скончыла Інстытут сучасных ведаў імя Шырокава, аддзяленне эстраднага вакалу. Там жа захапілася джазам. На конкурсе выканала дзве кампазіцыі: Feelin 'good групы Pussycat Dolls і Feels so good спявачкі **Габрыэлы Андэрс**.

Дыяна даўно планавала ўдзел у падобным праекце: хацела паспрабаваць свае сілы, набыць досвед выступлення на конкурсе міжнароднага маштабу.

Святлана МАЦУКЕВІЧ,
культарганізатар
каледжа.

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

- Аўдзі-80 В2, 1983 г.в, 1,6Д, люк. Вілейка. Т. (8-033) 6622511.
- ВАЗ-2105 на хаду ў добрым стане. Т. (8-025) 6753221.
- ВАЗ-2106, нядорага. Т. (8-029) 5753932.*
- ВАЗ-2107, 2007 г.в. Т. МТС (8-029) 7602038.
- Газэль-2705, 1998 г.в, дызель 2,5, грузапасажырскі, сіне-зялёны, торг. Т. (8-029) 7672256, (8-044) 4611421.*
- Гольф 3, 1994 г.в, 1,4Б; Suzuki-Bandit, 2000 г.в, 6000 куб. см. Т. (8-029) 6158448.
- МАЗ-5551 самазвал, 10 тон; рухавік КПП, кардан, гума новыя, наяўны, безнаяўны разлік. Т. (8-029) 1360625.*
- МАЗ-цягач-504, 1989 г.в. з п/п самазвал 52-32В, 16 тон, 20 куб, нарошчаны. Цана дагаворная, наяўны, безнаяўны разлік. Т. (8-029) 1360625.*
- Мерсэдэс w124, 2.0d , 1985 г.в., добры стан, 30 000 000 руб. Т. (8-029) 711-87-59.
- Міцубісі-Карызма, 1995 г.в., 1,6 бензін, добры стан, нядорага. Т. (8-029) 68665329, (8-033) 6862629.*
- Нісан-Прымера, 1997 г.в, сіні, фаркоп, нядорага. Маладзечна. Т. (8-017) 6542833, (8-029) 7661292.
- Пежо-405, 1993 г.в, 1,6 г/б. Т. (8-033) 6379952.*
- ФВ-Пасат В3, 1993 г.в, 1,9ТД, цёмна-фіялетавы, выдатны стан, 47 800 000 руб. Т. МТС (8-029) 8755766.
- ФВ-Т2, легкавы, дызель 1,6. Т. (8-029) 8609061.*
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. ЧСУП "АРТАлексСэрвіс" УНП 690639270.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

## КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўтамабіль у любым стане. Т. (8-033) 6062301.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*
- Аўто ў любым стане, з любымі праблемамі, тэрмінова. Т, МТС (8-033) 3746842.*
- Аўто, іншамарку, да 30 000 000 руб. Т. МТС (8-033) 6046932.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

## ПАСЛУГІ

- Паслугі міні-экскаватара, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. Каналізацыя. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5045554.*
- **АРЭНДА ЭКСКАВАТАРА-ПАГРУЗЧЫКА. УСЕ ВІДЫ ЗЕМЛЯНЫХ РАБОТ. ТАА "МОЛТРАНС" УНП 691503225. Т. (8-029) 3773887.***
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, колавы экскаватар, вібрапліта 500 кг, траншэекапальнік. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9666645.*
- Міні-экскаватар, траншэі пад ваду, газ, падмурак і г.д. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*
- **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*
- **ЭВАКУАТАР. ТЭХДАПАМОГА. КРУГЛАСУТАЧНА. ТАА "МОЛТРАНС" УНП 691503225. Т. (8-029) 7448448.***



# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАЕЦЦА

- 2-павярховы катэдж у в. Чысць з усімі выгодамі, 107 кв.м (2 хлявы, гараж з ямай) альбо мяняю на 2-пакаёвую кватэру ў горадзе і дом ці кватэру ў в. Краснае ці Радашкавічах. Разгледзім любыя варыянты. Т. Лайф (8-029) 7528450, хатні (8-0176) 772234.
- 2-пакаёвая кватэра ў Валожыне. Тэрмінова. Т. (8-044) 7754100, (8-033) 6665410.
- 2-пакаёвая кватэра ў г. Смаргонь, цагляны дом, 6/9 пав., побач супермаркет "Еўраопт". Т. (8-0176) 776781, (8-044) 7976895, (8-029) 9761893.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Докшыцкім р-не Віцебскай вобл. Т. (8-044) 4996728.
- 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Замкавай, 56; 3/5, агул. пл. 50,6 кв. м, 1986 г., без пасярэднікаў. Т. (8-029) 3659578.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Першамайскай, д.4; 2 паверх, агул. пл. 38,2 кв.м, частковы рамонт, 350 000 000 руб. Т. (8-033) 6633112, (8-029) 6933203.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6536317.*
- 4 соткі ў в. Кардон. Т. (8-029) 7628080.
- 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Касманаўтаў, д.11, 4/5, 61 м², с/в раздзельны. Т. (8-0176) 775791, (8-0176) 741594, (8-033) 3781176, (8-033) 3786807.
- Гараж у ГБК-6 па вул. 1 Мая ў Вілейцы, р-н АЗС. Т. (8-029) 1331698, (8-029) 5559694.
- Дача ў с.т. "Гранат", в. Лабачоўка Маладзечанскага р-на, участак вуглавы, 12 сотак, навываз, кацёл, вагонка, тачка. Т. (8-029) 6394096, (8-0176) 548513.
- Дача ў Лазаўцы. Т. (8-0176) 590906.*
- Дача ў садаводчым таварыстве "Дружба-Прынта", 12 км ад Вілейкі, лес, рака. Т. (8-029) 8597408.







- Дом (трэба капрамонт), можна пад дачу, у в. Клыні Вілейскага р-на. Да вадасховішча 5-8 км, недалёка лес. Т. (8-029) 9077527.
- Дом 100 кв.м, 10 км ад Вілейкі, на Вілейскім вадасховішчы,3 гаражы, альтанка, калодеж, дрэвы, лазня, сад 40 сотак, 25 сотак прыватнай уласнасці. Т. (8-029) 3531308.
- Дом №38 у в. Урэчча Вілейскага р-на. Ёсць вялікі хлеў, лазня, калодзеж, гараж. 70 000 000 руб. Т. (8-01771) 48484, (8-029) 1644055.*
- Дом драўляны 1965 года ў г.п. Свір Мядзельскага р-на, карысная плошча 60 кв.м, гаспабудовы, прысядзібны участак 0,15 га. Т. Вэлком (8-029) 9403452.
- Дом драўляны ў вёсцы ў Валожынскім р-не, добры стан, пяць пакояў, лазня, павець для дроў. Побач лес, возера. Нядорага. Т. (8-033) 3949384.*
- Дом жылы, драўляны ў Залессі Смаргонскага р-на, ёсць калодзеж. Т. (8-029) 2796974, (8-044) 7670754.*
- Дом з участкам у в. Насілава. Т (8-029) 2697533.*
- Дом на станцыі Гудагай. Т. (8-029) 2883970, (8-029) 1505888.*
- Дом у а/г Нарач, гаспабудовы, 50 сотак. Мядзел. Т. (8-029) 6532331.
- Дом у в. Любань. Т. (8-033) 6026288.*
- Дом у в. Філіпкі Мядзельскага р-на, летняя кухня, гаспадарчыя пабудовы, 25 сотак. Т. (8-01771) 29181.*
- Дом у в. Цынцавічы Любанскага с/с, можна на дачу. Ёсць сад, агарод, калодзеж, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-01771) 56010, (8-029) 5644936.*
- Дом у вёсцы Полаўцы Вілейскага р-на. Т. (8-029) 8587518.*
- Дом у Вілейцы. Т. (8-029) 3999382.*
- Дом у Маладзечне па вул. Гарадоцкай, 3 пакоі, газ, ацяпленне, душ, туалет, тэлефон. Т. (8-029) 5695205, 8-029 7076867.
- Дом у Маладзечне 70/53/30, 8,4 зямлі, выгоды, газ, гараж. Т. (8-029) 2608541.*
- Катэдж у Вілейцы, 80% гатоўнасці, дом у в. Кузьмічы. Т. (8-029) 7717436.*
- Участак 10 сотак у в. Снежкава. Фундаменты пад дом і лазню, можна з лазняй 4,7х9 (па фундаменту). Т. МТС (8-029) 5685055.
- Участак зямельны ў в. Снежкава Вілейскага р-на. Т. (8-029) 1331698, (8-029) 5559694.
- Участак зямельны са зрубам. Прыгарад Вілейкі. Т. (8-029) 6672413.*

## ЗДАМ

- Гараж у Маладзечне па вул. Міру, 6х8. Т. (8-029) 5753932.*
- 3-пакаёвую кватэру ў Маладзечне па вул. Будаўнікоў. Т. (8-029) 8500258.*



# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*
- Музычнае суправаджэнне вяселляў, юбілеяў. Баян. Валынка. Адэкватная цана. ІП Ярук С.П. УНП 690696231. Т. (8-029) 7758341.*
- Музычнае суправаджэнне юбілеяў ,вяселляў, карпаратываў. Т. (8-0176) 546329, (8-029) 1444277, (8-029) 7684394.*

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*
- Фота і відэаздымка вяселляў, аблічбоўка відэакасет. ІП Чарняўскі С.В. УНП 691396671. Т. (8-029) 3305452, (8-029) 7686148.*

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Бус,1,5 т, нядорага. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*
- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Грузаперавозкі. Пераезды – кватэрныя, дачныя. Вываз смецця. Арэнда грузавога транспарту кат. "В". ПП "ОЛ-ВіК ГРУПП" УНП 690536314. Т. (8-029) 9549681, (8-029) 7696956.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*
- **МЕРСЭДЭС, 5Т, 36 КУБ.М. ТАА "МОЛТРАНС" УНП 691503225. Т. (8-029) 2632663.***

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Абшыўка дамоў сайдынгам, блок-хаўсам, вагонкай. Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, падшыўка, вадасцёчка. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723.*
- Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Адпачынак на хутары. Руская лазня, альтанка, традыцыйная кухня, футбольная і валейбольная пляцоўкі, рыбалка. Сайт: www.usadyba.wix.com/rodnik. Т. (8-029) 7024924 .*
- Андулін. Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*
- **АРГОНАВАЯ ЗВАРКА, ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш**. АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ланцугоў, рамонт падвескі**. ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*
- Будаўнічыя работы любой складанасці па адэкватных цэнах выканаем хутка і якасна. Гарантыя, дагавор. ПТПУП "Гранд Тэсса" УНП 590927845. Т. Вэлком (8-044) 5569111, МТС (8-029) 2148378.
- Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. Вэлком (8-029) 1287878, (8-029) 7860317.*
- Выканаю **ЎКЛАДКУ ПЛІТКІ і АБЛІЦОЎКУ СЦЕН**. Выраўноўванне сцен і падлогі пад плітку. ІП Леган А.С. УНП 691888682. Т. (8-029) 7709929.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Дах, заліўка фундаментаў, вагонка, блок-хаўс, кладка, аддзелка лазняў, гіпсакардон, ламінат. Наяўны/Безнаяўны. Замер, дастаўка матэрыялу. Па РБ. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*
- Добраўпарадкаванне пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 5544175, (8-029) 3469417.*
- **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*
- Кантрольныя, курсавыя, справаздачы па бухгалтарскіх, эканамічных і камерцыйных дысцыплінах. ІП Кімбар А.В. УНП 691507603. Т. (8-029) 8529356.
- Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*
- Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*
- Поручні (перила), навесы, агароджы (з чорнага металу і нержавеючай сталі). ІП Конан А.Л. УНП 691396245. Т. (8-029) 7665311, (8-029) 5039881.*
- Разныя вырабы: vk.com/album 297080687_229930164. УНП КА 8273795. Т. (8-025) 5080428. *
- Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага,36. Наяўны і безнаяўны разлік. <u>www.miv-computevov.dy</u> ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*
- **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя**.** ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.





* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

# “Нас прадалі у Францыю за зброю”

## Мой дзядзька ваяваў у Першую сусветную на Заходнім фронце

*Працяг. Пачатак у №№19, 20*

**26 красавіка споўнілася роўна сто год з таго дня, калі першая брыгада Рускага экспедыцыйнага корпуса прыбыла ў Марсель для ўдзелу ў вайне з Германіяй на баку Францыі.**



Фота забяспечанае Пятром ШАКОЛАМ.

Валянціна Казіміраўна, дзядзька Казімір, Віктар Шаколы. 1980-я гады. Адэса.

Сустрэча на алжырскай зямлі аніяк не паходзіла на цёплы прыём, аказаны рускім ваенным у красавіку 1916 года ў Марселі. Іх тут прымалі як злачынцаў, сасланых катаржан.

Цяжкія выпрабаванні выпалі на долю былых расійскіх вайскоўцаў: з першых хвілін знаходжання ў Алжыры рускіх салдат, якія не былі ваеннапалоннымі і яшчэ нядаўна пралівалі кроў за Францыю, бралі на мушку французскія кулямётчыкі.

Баракі, у якіх яны жылі, былі абнесеныя калючым дротам. Іх чакала найцяжэйшая праца ва ўмовах непрывычнага клімату, у тым ліку на вугальных шахтах і свінцовых рудніках. Благое харчаванне ледзьве забяспечвала іх паўгалоднае існаванне. А яшчэ вельмі нізкі ўзровень медыцынскай дапамогі, жудасная антысанітарыя, жорсткія спагнанні за дысцыплінарныя парушэнні, карцар і турма.

**У Алжыры іх трымалі за рабоў.**

Спазнаўшы катаржную працу і спадарожныя ёй нястачы, некаторыя салдаты з былога Рускага корпуса запісваліся ў замежны полк Мараканскай дывізіі, якая перакідвалася на арэну баявых дзеянняў у Еўропу. Угаворвалі запісацца і Казіміра, але ён рашуча адмовіўся.

Ішоў час, закончыўся 1917 год, яго змяніў 1918, наступіў 1919, за ім 1920... Ужо і белых перамаглі чырвоныя, а ў родных ад сына – ніякіх звестак: прапаў хлапец. Бацькі рашылі, што салдата з вайны ім ужо не дачакацца, бо тэрмін выйшаў, у жывых яго няма, і, як сапраўдныя веруючыя каталікі, заказалі ў касцёле паніхіду за спачын душы Казіміра.

### Палонных не прымалі на Радзіму

Шматмесячная драматычная эпапея Казіміра Шаколы працягвалася. Афрыканскія катаржане пачалі вяртацца на радзіму ў канцы 1919 года. Рускіх салдат дастаўлялі на караблях у Крым. На паўвостраве ў гэты час бушавала грамадзянская вайна, транспарт з былымі палоннымі адмаўляліся прымаць як чырвоныя, так і белыя.

Першыя баяліся, што тыя, каго вярнулі, пяройдуць адразу ў варожы стан, а белыя не хацелі дапусціць папаўнення чырвоных палкоў пабальшавіцку настроенымі салдатамі. Так сталася і з транспартам, на якім знаходзіўся Казімір: пасля няўдалай спробы прыстаць да крымскага берага, карабель адправіўся ў Канстанцінопаль.

Тут рускіх салдат ніхто не чакаў, яны былі вымушаныя далей цярпець неймаверныя нягоды, галадаць і мучыцца ад смагі. Нарэшце, іх зноў пагрузілі на параход і вывезлі ў мора. На гэты раз родны бераг не быў гэткі непрыязны, карабель змог прышвартавацца ў адной з бухт. Змарнелыя пасажыры з цяжкасцю спусціліся на сваю зямлю.

У Армавіры (цяпер горад у Краснадарскім краі), куды прывезлі з Афрыкі франтавікоў, іх аддалі ў распараджэнне Дзянікіна з прапановай паступіць у добраахвотную армію.

Пасля катэгарычнай адмовы гэтых людзей аб’явілі ваеннапалоннымі і правялі “сартаванне”: некалькіх сышоўшых на бераг былых салдат Рускага корпуса расстралялі, іншых прымусілі несці каравульную службу ў распалажэнні дзянікінскіх часцей. 16 сакавіка 1920 года горад Армавір узяла Чырвоная армія. Пасля адпаведнай “зачысткі” з яе боку большасць “афрыканцаў”, тых, хто прайшоў праверку, адпусцілі дамоў. Некаторых, хто пагадзіўся служыць, залічылі байцамі ў штат.

Казіміра Шаколу ў самы разгар тых падзей спасцігла хвароба: яго зваліў брушны тыф. Праз пэўны тэрмін бяспамяцтва і кідання ў трызненні ачуняў у лазарэце, дзе дзякуючы высілкам лекараў, а таксама маладому моцнаму арганізму стаў хутка папраўляцца і ўстаў на ногі.

### Падрыхтоўка да вяртання

З боку новых уладаў прэтэнзій да дзядзькі не было, яго лёс нікога не турбаваў – свае праблемы трэба было вырашаць нейкім чынам самому. Але фізічны стан яшчэ не дасягнуў той моцы, каб можна было рашыцца на падарожжа ў далёкую Беларусь праз ахопленыя вайной, голадам і эпідэміямі расійскія бязмежныя прасторы, якія ляжалі ў разбурэнні і запусценні.

Ды яшчэ невядома, як сустрэне свая зямля і ці засталіся ў жывых яго родныя. І грошай жа на дарогу няма дзе ўзяць, як няма і адзення нармальнага: паабнасіўся салдат у акопах, катаржных бараках ды карабельных трумах. І вырашыў Казімір застацца пакуль у Армавіры, тым больш, што тут, на поўдні, людзям жыць і цяплей, і адносна сытней, знайсці працу, падзарабіць і нармальна апрануцца, а ўжо тады думаць, як быць далей.

Удалося ўладкавацца дворнікам у той самай лякарні, дзе пазбавіўся ад тыфознай хваробы, а пазней паступіў рознарабочым на ватную фабрыку (цяпер “Армавірская фабрыка нятканых матэрыялаў”).

Лістоў дамоў Казімір не пісаў, бо думаў, што вось незадоўга наступіць той момант, калі ён накопіць неабходную суму грошай і сам паедзе на Радзіму. Але ж хутка думка думаецца, а справа... не!

Не ўдалося яму падрыхтавацца да паездкі за цёплым часам, а там і халады падаспелі. А ў наступным годзе з фабрыкі яго ў ліку іншых звольнілі з-за адсутнасці заказаў. І дзядзька доўгі час быў беспрацоўным, перабіваўся “з хлеба на ваду”. Зарабляў на жыццё пераважна тым, што наймаўся да людзей на нейкія тэрміновыя гаспадарчыя работы.

Больш чым праз год пашанцавала паступіць на работу гаспадарчым рабочым маслабойнага завода па вырабе сланечнікавага алею, дзе акрамя пастаяннай, хоць і невялікай зарплаты ён меў і свой кут у доме барачнага тыпу. З’явіліся перспектывы перамен да лепшага: дзядзька змог забяспечваць мінімальныя патрэбы больш-менш прыстойнага існавання, а таксама пакрыху адкладваць капейчыну на запас.

### Дадому не пусцілі

У 1926 годзе Казімір рашыўся выправіцца ў дарогу. Папрасіў на працы водпуск, купіў білет на цягнік і, узяўшы з сабой самыя неабходныя рэчы, рушыў у накірунку Беларусі. Але здзейсніць задуманае да канца не давялося. Не даехаў ён да родных мясцін. Дзесьці на паўшляху, а мо і раней, яго не прапусцілі праз нейкую мяжу, і дзядзька быў вымушаны вярнуцца ў Армавір.

У гэтым месцы я павінны зрабіць адступленне ад асноўнага тэксту і адносна спробы дзядзькі Казіміра наведаць Лагойшчыну і сказаць наступнае.

Пра забарону Казіміру ў 1926 годзе перасекчы мяжу на яго шляху ў Беларусь мне і Надзі распавядала наша стрыечная сястра, дзядзькава дачка Валянціна. Але якая гэта была мяжа канкрэтна, патлумачыць яна не магла, не мог прасвятліць сітуацыю і сам дзядзька Казімір, калі я ў 1977 годзе папрасіў растлумачыць гэты эпізод.

У той час у Савецкім Саюзе ніякіх жа дзяржаўных межаў паміж састаўнымі часткамі СССР, у тым ліку і БССР, не існавала, і грамадзяне маглі свабодна перамяшчацца па ўсёй тэрыторыі.

Значыць, напрошваецца выснова: гэта магло быць часовае абмежаванне ў сувязі з нейкімі надзвычайнымі мерамі. У 20-х гадах 20 стагоддзя і непасрэдна ў 1926 годзе на шматлікіх тэрыторыях краіны часта ўзнікалі ўспышкі розных эпідэмічных захворванняў, у сувязі з чым праводзіліся неабходныя мерапрыемствы, у тым ліку і са строгімі забаронамі каранціннага характару. І таму, сапраўды магчыма, што Казіміра завярнулі назад на адным з такіх вось пунктаў.

Як бы там ні было, але Казімір Шакола вярнуўся ў Армавір і працягваў працаваць на сваім рабочым месцы. Неўзабаве сустрэў, пасяброваў і ажаніўся з добрай і мілавіднай дзяўчынай-украінкай Дар’яй, якая паходзіла з чачэнскага горада Грозны, і ў іх нарадзілася дачка Валя.

Думкі аб роднай вёсцы на Беларусі неяк паціху адышлі на далёкі план: трэба было забяспечваць сям’ю, гадаваць дзіця, таму Казімір перайшоў на больш прыбытковую работу, калі не памыляюся, на ліцейна-механічны завод. Хутка яны атрымалі пакой у камунальнай кватэры.

**Пётр ШАКОЛА,**
**Ашмяны.**

**Заканчэнне будзе.**

● КАЛЯНДАР

**20 МАЯ**

**1961 год.** У Варшаве памёр Язэп Гапановіч, нацыянальны дзеяч. Перад Першай сусветнай выехаў у Варшаву. Дзеяч беларускай кааперацыі на Віленшчыне. Намеснік старшыні Беларускага нацыянальнага камітэту ў Варшаве. Быў уласнікам цагельні. Дапамагаў незаможным беларускім студэнтам.

**21 МАЯ**

**1841 год.** Памёр Юльян Нямцэвіч, польскі пісьменнік, палітычны дзеяч, гісторык, удзельнік паўстання 1794 года.

**23 МАЯ**

**1946 год.** У мінскай турме НКВД памёр Кастусь Езавітаў, беларускі палітычны, грамадскі і ваенны дзеяч, публіцыст, перакладчык, педагог, гісторык. У 1919 –1920 гадах быў кіраўніком вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі. Наладзіў дыпламатычныя стасункі беларускага ўрада з урадамі Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі, звяртаўся з просьбай аб ваеннай дапамозе да ўрада ЗША. Праводзіў працу па арганізацыі беларускага войска, пошуку сродкаў на яго ўзбраенне. У маі 1920-га “за выдатную працу на карысць Беларускай Народнай Рэспублікі” атрымаў званне генерал-маёра. У 1921 – 1944 гадах жыў у Рызе, узначальваў там Беларускае нацыянальнае аб’яднанне. У Другую сусветную займаўся арганізацыяй у Латвіі беларускіх школ. У 1945 годзе займаў пасаду ваеннага міністра ва ўрадзе БЦР. Затрыманы СМЕРШ. Паводле афіцыйнай версіі, памёр падчас следства ад сухотаў і дыстрафіі 23 мая 1946, па іншых звестках расстраляны. Ён напісаў шэраг кніг і артыкулаў па гісторыі нацыянальна-вызваленчага руху, беларусазнаўстве, аўтар лірычных вершаў, укладальнік школьных дапаможнікаў. Меў багаты кнігазбор, падрыхтаваў да друку невядомыя творы Максіма Багдановіча.

**24 МАЯ**

**30 гадоў** таму ў вёсцы Ракуцёўшчына ўпершыню адбылося свята паэзіі і песні, прысвечанае Максіму Багдановічу.

**Дзень славянскай пісьменнасці.**

**25 МАЯ**

**Дзень памяці Максіма Багдановіча.**

**26 МАЯ**

**90 гадоў** з дня нараджэння (1926) Іллі Кургана, дыктара радыё, педагога, заслужанага артыста Беларусі.

**90 гадоў** з часу стварэння (1926) творчага аб’яднання беларускіх савецкіх пісьменнікаў “Узвышша” (існавала да снежня 1931 г.).

**Падрыхтавала**
**Марыя БЕРАСНЕВА.**



Марыну Бязуглую стаць прадпрымальніцай падштурхнула беспрацоўе.

Фота Настассі РОЎДЫ.

# Адкрыла бізнес за дзяржаўную падтрымку

МАЛАДЗЕЧНА

**Марына Бязуглая** з Маладзечна – адна з тых, хто атрымаў дзяржаўную дапамогу на арганізацыю ўласнай справы. Жанчына мела сур'ёзны рабочы стаж. Працавала ў вучэбна-курсавым камбінаце "Надзея", вучылася ў Мінскім тэхналагічным каледжы на тэхнолага. У фабрыцы "Бярозка" Марына пачынала з закройшчыцы атэлье, пасля яе павысілі да інжынера па якасці з абавязкамі тэхнолага.

Калі на фабрыцы былі складаныя фінансавыя часы, жанчына пайшла працаваць да прыватніка, але і яго фірма хутка развалілася.

– Маладзечна – горад швачак, – гаворыць Марына Бязуглая. – Шмат з іх засталося пасля "Бярозкі", "Юноны". Таму і канкурэнцыя вялікая. Нейкі час я сядзела дома, а пасля выйшаў "указ аб дармаедах". Давялося стаць на біржу. Я, можа, і не стала б прадпрымальніцай, але мне падказалі, што дзяржава можа выдаць субсідыі на адкрыццё справы. Таму і пагадзілася.

**16 мільёнаў рублёў падтрымкі пайшлі на закупку дарагога абсталявання, без якога выконваць якасную працу немагчыма.**

– Цяпер я магу абточваць зрэзы ў трыкатажы, напрыклад, і любы рамонт адзення выконваць якасна. Хаця ў Маладзечне швачак многа, але, паверце, праца ёсць.

Жанчына працуе ад жніўня. Субсідыі дзяржаве вяртаць не трэба, як і ўсім тым, хто арганізаваў сваю справу і працуе больш за паўгода.

У яе заказваюць не толькі рамонт адзення, але і пашыў. Такой паслугай карыстаюцца звычайна ці тыя, хто хоча выглядаць адметна, ці тыя, хто не знаходзіць свой памер на рынку.

Жанчына адзначае, што студзень-люты былі надзвычай цяжкімі месяцамі, але ўсё ж з надыходам вясны праца пайшла. Калі раней на арэнду і падаткі патрэбна было працаваць да 20-га чысла месяца, то цяпер атрымліваецца справіцца да 10-га. Марына падумвае і пра пашырэнне – наняць работніка.

– Калі брала субсідыю, то не баялася: я была ўпэўненая ў сабе як у прафесіянале, усё ж працавала кантралёрам па якасці. А да гэтага дадала дарагое абсталяванне, якое іншыя наўрад ці набудуць. І справа пайшла!

# Рынак працы:

## вакансій няма, але і скарачэнні не плануюцца

МАЛАДЗЕЧНА

**Завод металаканструкцый** на сёння самае буйное прадпрыемства горада. На ім працуе 1037 чалавек.

Пра сітуацыю з кадрамі распавяла **Алена Арцюх**, намесніца генеральнага дырэктара па ідэалагічнай рабоце і агульных пытаннях.

– Скарачэнне, якое адбываецца на прадпрыемстве, праходзіць натуральным шляхам. У некага заканчваецца кантракт, і мы яго не працягваем, нехта сыходзіць на пенсію або ў дэкрэтны адпачынак.

На сённяшні дзень вакансій на заводзе няма.

– У нас няма канкрэтнай лічбы, колькі яшчэ чалавек трэба скарачаць. Але намеснік прэм'ер-міністра Беларусі **Анатоль Калінін**, калі наведаў наш завод, сказаў, што для такога прадпрыемства 1000 чалавек – шмат.

Завод цяпер працуе ў дзве змены, нават па суботах. Загрузка ёсць.

**"Забудова"**. На першага мая на заводзе працавала 789 работнікаў. Сёння скарачэнню падлягаюць 14 чалавек. Пра гэта расказаў начальнік аддзела прававой і кадравай работы **Дзмітры Кібзюк**.

– Вакансіі, якія адкрываюцца на прадпрыемстве, адразу прапаноўваюцца тым, хто падпаў пад скарачэнне. Таму можна сказаць, што вольных, незапатрабаваных вакансій у нас няма.

**Станкабудаўнічы завод**. На станкабудаўнічы завод сёння патрабуецца адзін рабочы.

А працуюць 89 чалавек. Сярэдні ўзрост работнікаў 46-47 гадоў.

– Працэс аптымізацыі на сёння завершаны, – распавядае начальніца бюро прававога і кадравага забеспячэння **Алена Паслед**, – і ў бліжэйшы час скарачэнняў не плануем.

Прадпрыемства працуе поўны працоўны тыдзень, аднак не ў поўных аб'ёмах.

– Нам амаль штодзень тэлефануюць наконт працы. Просяць уладкаваць хоць на нейкую пасаду.

**ПМК-212**. На ПМК-212 сёння працуе 310 чалавек.

– Скарачэнняў няма, вакансій таксама. Мы заключаем дагаворы з рабочымі на непрацяглы тэрмін у сувязі з тым, што будаўнічыя работы маюць непрацяглы тэрмін, – распавяла **Кацярына Сянько**, інспектар па кадрах ПМК-212.

### У політэхнічнага каледжа з размеркаваннем няма праблем

Пра тое, ці ёсць складанасці ў працаўладкаванні маладых спецыялістаў, адказаў намеснік дырэктара па вучэбнай частцы Маладзечанскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа **Юры Якуновіч**:

– Свабодны дыплом мы выдаём толькі ў надзвычайных сітуацыях, напрыклад, калі дзяўчына цяжарная. У астатніх выпадках мы размяркоўваем выпускнікоў. Справа ў тым, што наша размеркаванне рэспубліканскае, і мы знаходзім працу маладым спецыялістам, не абмяжоўваючыся Маладзечаншчынай.

Па некаторых спецыяльнасцях мы манапалісты, таму попыт на выпускнікоў ёсць заўсёды. Хаця мы адчулі праблему на рынку працы, але гэта заключаецца ў тым, што раней заявак было ўдвая больш, чым выпускнікоў. Цяпер прапаноў не так шмат, але ўсе задачы мы выконваем. Што тычыцца заробку маладых спецыялістаў на месцы працы па размеркаванні, то часта ён вышэйшы, чым у маладых выкладчыкаў установы, якія прыходзяць працаваць у каледж.



## Як у Германіі ствараюць прывабны рынак працы

Пра досвед Германіі распавядаюць аўтары кнігі "Факты аб Германіі" 2015 года . Прапануем вытрымкі з артыкула "Прывабны рынак працы"

"Нямецкі рынак працы – нягледзячы на фінансавы і эканамічны крызіс – ад 2008 года узяў курс на пазітыўнае развіццё. Германія адна з краін ЕС з самым нізкім узроўнем беспрацоўя. Перадусім рост у галінах, звязаных са сферай паслуг, пазітыўна ўплываў на рынак працы. Тыповай з'явай стаў няпоўны рабочы дзень.

Нізкі ўзровень беспрацоўя сярод моладзі прыцягнуў увагу іншых краін да паспяховай дуальнай сістэмы прафтэхнавучання, якая адрозніваецца ад чыста школьнага навучання, характэрнага ў большасці краін для атрымання прафесіі. Каля паловы маладых людзей у Германіі пасля заканчэння сярэдняй школы вывучаюць адну з 350 прызнаных дзяржавай прафесій у межах дуальнай сістэмы прафтэхадукацыі. Практычная частка 3-4 дні на тыдзень вывучаецца на прадпрыемстве, 1-2 дні на тыдзень праходзіць тэарэтычнае навучанне ў прафесійнай школе. Многія краіны пераймаюць цяпер такую сістэму.

Каб стварыць сучасны, справядлівы і празрысты рынак працы, федэральны ўрад рэалізаваў мноства праектаў. Ад 2015 года, напрыклад, дзейнічае усталяваная законам мінімальная аплата працы у памеры 8,50 еўра за гадзіну, ад чаго пакуль выйграла 3,7 мільёна чалавек. Жаночая квота прызваная забяспечыць раўнапраўе мужчын і жанчын пры прасоўванні на кіруючыя пасады. Прадпрыемствы, акцыі якіх каціруюцца на біржы і дзе існуе сістэма ўдзелу работнікаў у прыняцці рашэнняў, ад 2016 года павінны даваць жанчынам 30% месцаў у сваіхназіральных саветах.

"Закон аб адзінстве тарыфаў" гарантуе, што на прадпрыемстве адна і тая ж дзейнасць павінна аплачвацца аднолькавым тарыфам. Хто больш за 45 год быў застрахаваны ў сістэме абавязковага пенсійнага страхавання, той ад 1 ліпеня 2014 года можа выходзіць на пенсію ў 63 гады без якіх-небудзь стратаў у яе памеры".

# У Маладзечне ствараюць новыя рабочыя месцы

**МАЛАДЗЕЧНА**

Сітуацыю на працоўным рынку Маладзечаншчыны абмалявала намесніца начальніка ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне насельніцтва Маладзечанскага райвыканкама **Таццяна Мучынская**.

У 2015 годзе зарэгістраванае беспрацоўе расло, такая ж тэндэнцыя захавалася сёлета. На 1 красавіка ўзровень беспрацоўя дасягнуў 2,44%.

Павялічвалася колькасць зваротаў у службу занятасці па дапамогу ў працаўладкаванні і рэгістрацыі беспрацоўных, а колькасць свабодных рабочых месцаў змяншалася. Колькасць беспрацоўных павялічваецца з-за зніжэння запатрабавання наймальнікаў у кадрах, а таксама з-за аб'яўленай у краіне барацьбы з сацыяльным дармаедствам.

Свабодных рабочых месцаў на 1 студзеня было 64, і гэта на 63,8% менш, чым год таму. Змянілася структура вакансій – іх стала менш па рабочых прафесіях.

Непрацоўныя доўгі час пабольшала за год на 29%.

Першы квартал 2016 года паказвае станоўчую тэндэнцыю на рынку працы. Узровень зарэгістраванага беспрацоўя знізіўся на 0,04%.

**У маі павялічылася колькасць прапаноў вакансій, што знізіла напружанасць. І на адну вакансію стала не 19,37 чалавека, а 14,69.**

**Зарэгістраваныя беспрацоўныя на Маладзечаншчыне**

| Дата | Колькасць |
|---|---|
| 1.05.2016 | 1 472 |
| 1.01.2016 | 1 219 |
| 11.02.2015 | 830 |
| 1.02.2015 | 541 |

У 2016 годзе ў Маладзечанскім раёне плануецца стварыць 850 новых рабочых месцаў. За кошт стварэння новых прадпрыемстваў 600 з іх, а за кошт стварэння новых вытворчасцяў – 250.

Стварыць рабочыя месцы плануюць наступныя арганізацыі: Маліноўшчынскі спіртагарэлачны завод, "Вялес-Міт", "Маладзечнаводаканал", "Эком" і іншыя.

За перыяд ад студзеня да красавіка ўжо стварылі 506 новых рабочых месцаў.

### Беспрацоўны можна стаць прадпрымальнікам

Некаторыя беспрацоўныя скарысталіся магчымасцю атрымаць грашовую субсідыю ад дзяржавы на арганізацыю ўласнай справы.

Начальнік аддзела арганізацыі новых рабочых месцаў і грамадскіх работ службы занятасці **Алена Барада** паведаміла, што за 2015 год такой магчымасцю на Маладзечаншчыне скарысталіся 22 чалавекі. Агульная сума дапамогі для іх склала 379 мільёнаў рублёў.

**У якіх галінах арганізоўвалі бізнес**

| Галіна | Колькасць чалавек |
|---|---|
| Будоўля | 6 |
| Розespічны гандаль | 4 |
| Грузаперавозкі, таксі | 3 |
| Вытворчая дзейнасць | 3 |
| Рамонт бытавых вырабаў | 2 |
| Іншыя віды | 1 |




### Вілейка: трывожыць малая колькасць вакансій

**ВІЛЕЙКА**

Узровень беспрацоўя па Вілейскім раёне вырас з 1,4% на пачатак года да 1,8% за першы квартал да эканамічна актыўнага насельніцтва.

Калі раней у беспрацоўя быў "жаночы твар", то на сённяшні дзень зарэгістраваныя ў аддзеле занятасці мужчыны складаюць больш за 60%.

– Трывожыць не столькі ўзровень беспрацоўя – гэта нармальная з'ява ў эканоміцы: заўсёды будуць людзі, якія ў пэўны момант будуць шукаць працу, – кажа намесніца начальніка ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне райвыканкама, начальніца аддзела занятасці **Таццяна Цітуленка**. – Больш трывожыць тое, што вельмі мала вакансій заяўляюць наймальнікі розных формаў уласнасці. Па Вілейцы – адзінкавыя вакансіі, больш вакансій заяўляе сельская мясцовасць. Там патрэбныя кваліфікаваныя спецыялісты.

Аптымізм у Таццяны Цітуленкі выклікае тое, што больш беспрацоўных прымаюць рашэнне адкрыць свой бізнес.

– У першым квартале года быў толькі адзін чалавек з ліку беспрацоўных, якому служба занятасці аказала фінансавую дапамогу для адкрыцця ўласнай справы. А ў другім квартале тры чалавекі з ліку беспрацоўных такую дапамогу ўжо атрымалі і яшчэ не менш чатырох пішуць бізнес-планы.

Памер дапамогі складае 15 бюджэтаў пражытачнага мінімуму, гэта больш за 28 мільёнаў рублёў. Грошы мэтавыя, але беззваротныя.

Актуальныя вакансіі можна знайсці ў банку дадзеных на сайце Міністэрства па працы і сацыяльнай абароне. На сярэдзіну тыдня на Вілейшчыне найбольшы заробак абяцаюць дырэктарам сельскагаспадарчых таварыстваў – па сем мільёнаў рублёў.

Менш за ўсіх прапануюць ветэрынарнаму фельчару ў райветстанцыі і галоўнаму аграному ў райаграсэрвісе – па два мільёны 300 тысяч.

*Старонкі 20-21 падрыхтавалі Зоя ХРУЦКАЯ, Наталля ТУР, Алесь ВЫСОЦКІ.*

# Як знайсці добрую работу і на што звяртаць увагу падчас сумоўя

### Як напісаць добрае рэзюмэ?

У кіраўніка або менеджара па персанале вельмі абмежаваныя часовыя рамкі, за якія трэба знайсці супрацоўніка.

Калі ўлічыць, што сумоўе займае ад 30 хвілін да 1,5 гадзіны, а на прагляд рэзюмэ ідзе ў сярэднім паўтары-дзве хвіліны, становіцца зразумела, чаму так важна мець добрае рэзюмэ.

### Што такое рэзюмэ?

Гэта кароткая, праўдзівая і актуальная інфармацыя аб вашых ведах, уменнях і досведзе работы. Звяртаю ўвагу на тры аспекты:

Сцісласць – уся інфармацыя павінна быць тэзіснай.

Праўдзівасць – не варта пісаць тое, чаго няма. Па-першае, гэта вельмі лёгка праверыць. Па-другое, вам могуць даручыць справу, якую вы зусім не ведаеце.

Актуальнасць – важнасць інфармацыі для дадзенай пасады.

### Што павінна быць у рэзюмэ?

Змест рэзюмэ заўсёды павінен ўтрымліваць чатыры асноўныя блокі:

1. Інфармацыя аб шукальніку – прозвішча, імя, імя па бацьку – буйнымі літарамі, каб адразу можна было ўбачыць імя. Узрост і дата нараджэння, бо не ўсім хочацца вылічваць, колькі вам гадоў.

Кантактная інфармацыя – пажадана мабільны тэлефон, электронны адрас абавязкова.

2. Адукацыя – школу паказваць не варта, а вось каледж ці ўніверсітэт абавязкова. Поўная назва ВНУ, факультэт, спецыяльнасць.

Асобна можна вылучыць пункт "дадатковая адукацыя" – розныя курсы, дадатковыя веды, якія вы атрымалі.

3. Досвед работы – пішуць у зваротным храналагічным парадку: самыя свежыя зверху, самыя старыя ўнізе.

Пазначыць варта перыяды работы, поўныя назвы арганізацый, якую займалі пасаду, службовыя абавязкі, поспехі, калі іх можна апісаць. Калі ў адной арганізацыі займалі розныя пасады, пісаць варта як асобныя месцы работы.

Будзьце ўпэўненыя, што пытанне аб прычынах звальнення будзе адным з першых.

4. Дадатковая інфармацыя – у гэтай частцы можна дапісаць асабістыя дасягненні, станоўчыя якасці, характарыстыкі. Звычайна сюды ўключаюць такія раздзелы: веданне моў, навыкі і ўменні (офісныя праграмы, фоташоп, асновы праграмавання), асабістыя дасягненні, а таксама асабістыя якасці.

### Восем важных якасцяў

Частае пытанне, якое задаюць людзі пры складанні рэзюмэ, – што пісаць у раздзеле "асабістыя якасці". Няправільны адказ можа нашкодзіць.

Два правілы, пра якія важна памятаць.

- Заўсёды пішыце праўду. Праўда вельмі хутка адкрыецца.
- Не варта забываць і пра іншыя пункты. Бо тут яшчэ будуць важныя і прафесійныя якасці.

Разгледзім найбольш папулярныя асабістыя якасці, якія паказваюць у рэзюмэ:

1. Ініцыятыўнасць. Часта людзі, называючы сябе ініцыятыўнымі, нават не зусім разумеюць, ці з'яўляюцца такімі. Мець сваё меркаванне ці рабіць цікавыя прапановы па развіцці – гэта яшчэ не ініцыятыўнасць. Ініцыятыўны чалавек на ўзроўні інтуіцыі разумее, што яму трэба рабіць на карысць арганізацыі ў тых ці іншых абставінах.

Выснова: ініцыятыўнасць варта згадваць у тых сферах, дзе не патрабуецца строгае захаванне бюракратычных паводзін.

2. Камунікабельнасць. Калі шукальнік піша ў рэзюмэ "камунікабельны", хутчэй за ўсё, ён мае на ўвазе сваё ўменне хутка знаходзіць агульную мову з супрацоўнікамі фірмы, кліентамі і пастаўшчыкамі. Такая якасць называецца "кантактнасць".

Выснова: слова "камунікабельнасць" варта згадваць пры пошуку пасады ў тых сферах, дзе неабходна пастаянна наладжваць кантакты і патрабуюцца жывыя зносіны.

3. Навучальнасць. 20-гадовы шукальнік з добрай навучальнасцю – гэта безумоўна плюс для працадаўцы. А вось чалавек ва ўзросце за 40, які займаў у розны час мноства самых разнастайных пасад і які напісаў у сваім рэзюмэ слова "навучальнасць", можа выклікаць падазрэнні.

Выснова: прэтэндуючы на пасаду ў любой сферы можна напісаць "навучальнасць" у тым выпадку, калі шукальніку 20-30 гадоў або калі прафесія мае на ўвазе пастаяннае вывучэнне новых тэхналогій і праграм для ўдасканалення сябе.

4. Адказнасць. На самой справе адказнасць мае на ўвазе ўзяцце на сябе выкананне пэўных задач ці вырашэнне праблем, зыходзячы з ведаў і ўмення.

Выснова: слова "адказнасць" варта паказваць у рэзюмэ пры шуканні любой пасады, але толькі ў тым выпадку, калі гэта якасць сапраўды ёсць.

5. Пунктуальнасць. Калі шукальнік не прывык педантычна выконваць усё, своечасова з'яўляцца на працы і дзелавых сустрэчах, то пісаць пра гэта не варта. У рэшце рэшт, працадаўца можа праверыць пунктуальнасць прэтэндэнта, даведаўшыся, у колькі ён прыйшоў на сумоўе.

Выснова: "пунктуальнасць" варта паказваць у рэзюмэ толькі тады, калі такая якасць уласцівая шукальніку.

6. Працаздольнасць. Напэўна, гэта самае недарэчная якасць, якую паказваюць у рэзюмэ. Калі чалавек шукае працу, то ўжо зразумела, што ён да яе здольны, у адваротным выпадку, навошта ён шукае працу?

Выснова: ўпісваць у рэзюмэ слова "працаздольнасць" не варта ўвогуле.

7. Стрэсаўстойлівасць. Нягледзячы на тое, што многія шукальнікі ў сваіх рэзюмэ згадваюць такую якасць, большасць ёй не валодае.

Праверыць стрэсаўстойлівасць падчас сумоўя не так ужо складана. Да прыкладу: задаецца некарэктнае пытанне або штучнае чаканне. Раздражненне вылезе абавязкова.

Выснова: згадваць "стрэсаўстойлівасць" можна пры шуканні любой пасады ў любой сферы дзейнасці, але толькі будучы на ўсе 100% упэўненым, што гэта сапраўды так.

8. Мэтанакіраванасць. Трэба не толькі імкнуцца да мэты, трэба яшчэ і ўмець правільна яе паставіць.

Выснова: упісаць дадзеную якасць можна ў любое рэзюмэ, але раней трэба адказаць самому сабе на пытанні "якая мая мэта?" і "як я яе дасягну?".

**Таццяна ЖДАНАВА, псіхолаг.**

НАВІНЫ

### “Ашмяны” сустрэнуцца са “Смаргонню”

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ

У пятым туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе ФК “Ашмяны” працягнуў пройгрышную серыю. Ашмянцы дома 14 мая прайгралі “Тарпеда” з Мінска 0:1. Гол прапусцілі на 83-й хвіліне.

“Смаргонь” дома 15 мая гуляла з лідарам “Гомельпугунтрансам”. Згуляла дастойна – 2:2. Госці зраўнялі лік на чацвертай дададзенай хвіліне матча. Галы ў смаргонцаў забілі **Сяргей Крот** і **Аляксей Лазко.**

22 мая ў Ашмянах гаспадары згуляюць са “Смаргонню”.

### У фінал выйшлі хлопцы з Мядзела і дзяўчаты з Маладзечна

МЯДЗЕЛ, МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА, ВАЛОЖЫН

У Мядзеле 12 мая прайшлі занальныя спаборніцтвы па валейболе ў межах абласной спартакіяды сярод дзяцей і падлеткаў “Каласок”. Удзельнічалі дзяўчаты і хлопцы 2000 года нараджэння і маладзейшыя.

Сабраліся каманды з чатырох раёнаў: Мядзельскага, Вілейскага, Маладзечанскага і Валожынскага. Гулялі па кругавой сістэме. Паміж хлопцаў першае месца заняла каманда Мядзельскага раёна. На другім месцы – прадстаўнікі Маладзечаншчыны, на трэцім – Вілейшчыны.

Сярод дзяўчат перамаглі маладзечанкі. Далей размясціліся віляйчанкі і мядзяльчанкі.

– Пераможцы і ў хлопцаў, і ў дзяўчат усе свае матчы выйгралі 2:0, расказаў дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Андрэй Русак.** Пераможцы працягнуць барацьбу ў фінале спартакіяды ў Маладзечне.

### Ашмянцы ўзялі шэсць кубкаў

АШМЯНЫ

У Ашмянах 4-8 мая праходзіў “Тыдзень класічнага паўэрліфтынгу 2016”.

Удзельнічалі каля 50 камандаў. Ашмяны выстаўлялі тры каманды: “ДЮСШ-Аякс 1”, “Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі-Аякс 2” і “Аякс 3”.

Ашмянскія каманды заваявалі шэсць камандных кубкаў. Яны занялі першыя месцы сярод юнакоў у трохбор'і і жыме штангі лежачы, паміж дзяўчат у трохбор'і і ў жыме штангі лежачы, сярод юніёраў у жыме штангі лежачы, паміж мужчын у трохбор'і.

Другое месца занялі сярод мужчын у жыме штангі лежачы. Трэція месцы ў ашмянцаў паміж жанчын у трохбор'і і ў жыме штангі лежачы.

У асабовым першынстве ў ветэранаў перамог **Андрэй Хрушчоў**. Сярод дзяўчат **Аліна Чашчына** устанавіла два рэкорды Беларусі, якія перавышаюць рэкорды Еўропы.

Пра гэта расказаў капітан каманды “ДЮСШ-Аякс 1” **Альберт Станкевіч**:

– Была вострая і бескампрамісная барацьба, – дадаў ён. – Не было ясна, хто стане чэмпіёнам у камандным заліку да апошняга дня спаборніцтваў. Мы вельмі рады, што ашмянскія каманды заваявалі шэсць кубкаў, шэсць камандных першых месцаў. На дадзены момант мы – самая моцная каманда.

### Віляйчане вызначылі лепшых у плаванні і дартсе

ВІЛЕЙКА

У цэнтры фізкультурна-аздараўленчай работы “Сатурн” 12 мая адбыліся спаборніцтвы па плаванні і дартсе. Прайшлі яны ў межах круглагадовай спартакіяды працоўных калектываў раёна.

У спаборніцтвах па плаванні прынялі ўдзел 11 камандаў. Ад кожнай у эстафеце ўдзельнічалі два мужчыны і адна жанчына.

Сфарміравалі тры заплывы. Самы хуткі з іх аказаўся першы. У ім каманда аддзела адукацыі, спорту і турызму выйграла на самым фінішы ў “Буддэталяў”, хоць перад трэцім этапам прайгравала паўтары корпусы. Першае месца заняла каманда аддзела адукацыі, спорту і турызму, другое – “Буддэталі”, трэцяе – у “Энергазбыту”.

У дартсе спаборнічалі 12 камандаў. Лепшым у мужчын сталі **Яўген Кажарновіч** (каманда “Водаканала”), **Алег Гаўрышчук** (аддзел адукацыі, спорту і турызму), **Васіль Лазар** (камбікормавы завод). А ў жанчын: **Таццяна Шамоціна** (ЖКГ), **Марыя Нікіткова** (Зеніт-БелОМА), **Наталля Шарафановіч** (“Водаканал”). У камандным заліку перамог “Вілейскі водаканал”, на другім месцы – ЖКГ, на трэцім – аддзел адукацыі, спорту і турызму.

Пра ўсё гэта паведаміў інструктар-метадыст ЦФАР “Сатурн” **Аляксандр Вайда**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Маладзечанка – пра закуліссе чэмпіянату свету па хакеі

**Чэмпіянат свету па хакеі 2016 для беларусаў ужо скончыўся. Адгуляўшы 17 мая апошні матч са зборнай Францыі, нашы ні з чым вяртаюцца дамоў.**




Фота забяспечана Юляй МАРОЗ.

Падчас чэмпіянату свету па хакеі ў Піцеры.

Маладзечанка **Юля Мароз** распавядае, што адбывалася на трыбунах і ў горадзе, калі гуляла беларуская зборная.

**Піцерцы прасілі гасцей чэмпіянату не з'язджаць**

Сёлета 80-ы юбілейны чэмпіянат свету па хакеі праходзіць ад 6 да 22 мая ў Санкт-Пецярбургу і Маскве. Паколькі адборачныя матчы групы В, дзе гуляла наша зборная, праходзілі ў Піцеры, мы паехалі туды.

Як не дзіўна, горад сустрэў добрым надвор'ем. Мясцовыя дзівіліся такой цеплыні і жартавалі, што яе прывезлі госці чэмпіянату. Прасілі не з'язджаць.

Галоўныя падзеі праходзілі ў спорткомплексе “Юбілейны”, але была яшчэ адна не менш важная пляцоўка: афіцыйная фанзона чэмпіянату па хакеі. Месцілася яна ў цэнтры горада на Канюшаннай плошчы.

Аматараў хакея там чакалі гульні і забавы, конкурсы, павільёны спонсараў. Але сэрцам фанзоны быў вялікі экран, дзе паказвалі прамыя трансляцыі матчаў. Традыцыйна перад трансляцыяй праводзілі “Лайка-прагноз”. Памятаеце васьмінога Паўля, вядомага ўсяму свету сваёй здольнасцю адгадваць вынікі матчаў з удзелам футбольнай зборнай Германіі? Ну вось. Тут быў сабака лайка Байкал, які з'яўляецца талісманам гэтага чэмпіянату.

Гледачы маглі сачыць за матчамі з трыбуны ці з любога пункту фанзоны. Праўда, гульняў з удзелам беларусаў на Канюшаннай плошчы не паказвалі. Нашы балельшчыкі, натуральна, абураліся гэтым фактам.

**З якіх гарадоў Беларусі ехалі на чэмпіянат**

На пачатку чэмпіянату беларускіх заўзятараў было шмат. Мільгалі гарады Рэчыца, Ліда, Смаргонь, Наваполацк, Мінск. Калі сустрэлі віляйчан, яны былі здзіўлены не менш за нас. Здавалася, яны б больш спакойна ўспрынялі навіну пра тое, што падтрымаць Беларусь прыехалі жыхары Зімбабвэ.

Багата было фінскіх балельшчыкаў. Пра іх можна смела казаць, што гэта самая крэатыўная група падтрымкі. Столькі касцюмаў, колькі ў фінаў, не было ні ў каго. Фіны вельмі ўпэўненыя ў сваёй зборнай. Перад гульнёй з Канадай мы ім пажадалі поспеху, а яны адказалі: “Ён нам не трэба. Пажадайце канадцам. Ім спатрэбіцца”. І сапраўды, канадцы ў той дзень прапусцілі чатыры шайбы, а забіць не змаглі ніводнай.

А вось самая зладжаная і шчырая падтрымка была ў венграў. Сапраўдны ўзор адносінаў паміж фанатамі і камандай. Яны з такой павагай і ўдзячнасцю ставіліся адзін да аднаго, што скарылі сэрцы ўсіх. Пасля кожнай гульні, нягледзячы на вынік, каманда паварочвалася да фанаў, і яны разам спявалі гімн. Пасля перамогі ў гульні з беларусамі трэнер разам з хакеістамі выйшлі да балельшчыкаў у фанзону. Заўзятары з Венгрыі казалі: “Мы вельмі рады, што наша зборная гуляе ў элітным дывізіёне. Для нашай каманды гэта ўжо адметна. Таму пры любым ліку матчаў мы задаволеныя нашай камандай”.

Сэрцы беларусаў трапяталі пасля паядынку са славакамі і ў апошняй адборачнай гульні з французамі. Было зразумела, што зборная не трапляе ў чвэрцьфінал, але матч з камандай Францыі вырашаў наш лёс у дывізіёне мацнейшых.

І беларускія балельшчыкі, можа, не такія ўжо ўзнёслыя, але ўсё яшчэ з верай у каманду, прыйшлі на трыбуны “Юбілейнага”. Тры шайбы ў варотах саперніка, вароты нашых пад надзейнай абаронай Коваля. “Эх... Так бы ўвесь чэмпіянат”, – уздыхалі фанаты.

Гэты чэмпіянат свету для нас атрымаўся не самы лепшы. Але мы ўсё яшчэ верым у каманду і жадаем поспеху ў кваліфікацыі на алімпіяду!

**Юля МАРОЗ,**
**беларуская заўзятарка.**

## Маладзечанцы сярод пераможцаў рэспубліканскай спартакіяды

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад 11 да 13 мая ў Віцебску праходзіла рэспубліканская спартакіяда па грэка-рымскай барацьбе сярод навучэнцаў ДЮСШ і СДЮСШАР.**

У спаборніцтвах прымалі ўдзел 14-15-гадовыя хлопчыкі з 28 камандаў, усяго 220 удзельнікаў.

Каманда Маладзечанскай ДЮСШ №1 была прадстаўленая 11 удзельнікамі і заняла агульнакаманднае другое месца спаборніцтваў.

Чэмпіёнамі турніру сталі **Данііл Кайлевіч** у вагавой катэгорыі да 35 кілаграмаў і **Міхаіл Хачапураў** у вагавой катэгорыі да 73 кілаграмаў, трэнеры **Антон Найлавец** і **Дзяніс Найлавец.**

Ягор Дзямідка ў вагавой катэгорыі да 47 кілаграмаў заняў другое месца. Трэнер – **Віктар Вянглоўскі.**

Арцём Гаўраў у вагавой катэгорыі да 38 кілаграмаў заняў трэцяе месца. Трэнер Яўген Козел. Таксама бронзу чэмпіянату заваяваў **Павел Глінчук**. Ён стаў трэцім у вагавой катэгорыі да 59 кілаграмаў. Трэнеры **Антон Найлавец** і **Дзяніс Найлавец.**

**Наталля ТУР.**




## Баклажаны: садзім, вырошчваем, тушым, ядзім

Цяпер якраз тая пара, што яшчэ можна пасадзіць баклажаны ў сваёй цяпліцы.

Калі вы так зробіце, то не прагадаеце, таму што карысць ад гэтага прыгажуна неверагодная.

У баклажанах усе неабходныя для арганізма мікраэлементы. І каштоўнасць не змяншаецца, калі з іх прыгатаваць стравы ці проста закансерваваць. Пекцін дапамагае стымуляваць страваванне і не дае застойвацца жоўці. Выводзіцца лішні халестэрын. Незаменныя баклажаны ў дыетычным харчаванні. Калій паляпшае работу сэрца і выводзіць вадкасць з арганізма.

Асаблівая карысная гэта агародніна пажылым людзям. Бо дапамагае змагацца з атэрасклерозам, астэахандрозам і астэапарозам, умацоўвае косці. І для тых, хто хоча пахудзець, баклажаны незаменныя. А яшчэ іх раяць есці людзям, якія хочуць пазбавіцца ад нікацінавай залежнасці.

Адзінае, бадай, супрацьпаказанне – нельга есці пераспелыя плады, бо можна атруціцца.

На зіму баклажаны можна заморажваць. Каб правільна гэта зрабіць, спачатку памыйце і нарэжце на кружочкі. Прысыпце баклажаны соллю і пакіньце на 30 хвілін. Сок, які выдзеліцца, змыйце – гэта дапаможа пазбавіцца ад горычы. Каб баклажаны не былі як гума, з дапамогай друшляка апусціце іх у кіпячую ваду на тры хвіліны, затым у халодную. Пасля пакладзіце баклажаны на пару хвілін на ручнік, каб прасохлі, а затым раскладзіце на паднос і накрыйце харчовай плёнкай – і ў маразільнік. Размарожваць іх трэба хутка, можна з дапамогай мікрахвалевай печкі, а лепш пачаць гатаваць, не размарожваючы.

Лепш за ўсё баклажаны тушыць ці запякаць, бо смажаныя абцяжарваюць працэс пераварвання ежы.

Самай лепшай стравай з баклажанаў лічыцца халодная ікра. Прыгатаванне зусім простае, трэба толькі пачысціць і парэзаць на невялікія кавалачкі баклажаны, да іх дадаць зеляніну: пятрушку, кроп, памідоры, часнок. Падчас запякання захоўваюцца ўсе карысныя рэчывы. Добра яшчэ іх гатаваць на пары і дадаваць у розныя стравы: плоў, варэнікі, салаты, рагу.

### Баклажаны з грэцкімі арэхамі

Баклажаны ачысціце ад скуркі і нарэжце на невялікія кавалачкі. Форму змажце алеем і выкладзіце баклажаны. Заліце соусам і запячыце.

Для соусу вам спатрэбіцца тры памідоры, жменька дробна парэзаных грэцкіх арэхаў, 1 зубок часнаку.

**Проста МАРЫЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | 7 | | | 1 | | | | |
| | 8 | | | 5 | 6 | | | |
| | 1 | | 7 | | | 8 | | 2 |
| | 2 | | | | | 9 | | 4 |
| 9 | | | | | | | | 1 |
| 1 | | 4 | | | | | 2 | |
| 5 | | 8 | | | 3 | | 1 | |
| | | | 1 | 6 | | | 4 | |
| | | | | 9 | | | 3 | 8 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## АФІША



Фота youtube.com.

Кадр з фільма "Аліса ў Залюстаркоўі".

# Вясна – самы час звар'яцець

### КІНО МАЛАДЗЕЧНА

Кінатэатр "Радзіма" працягвае пракат нядаўніх прэм'ер. Фантастычны супергеройскі баявік **"Людзі Ікс: Апакаліпсіс"** – адна з сёлетніх экранізацый коміксаў. У гэтай гісторыі звышлюдзі змагаюцца з самым небяспечным старажытным мутантам Апакаліпсісам.

Гледачы становча ацэньваюць карціну, але адзначаюць, што розніца паміж першай і другой часткай адчувальная. Некаторым першая палова падалася расцягнутай, іншым заканчэнне здавалася сціснутым.

Калі пытанні да сюжэта чаканага фільма – звычайная і спрэчная справа, то тэхнічнае выкананне на ўзроўні. Гледачоў парадуюць пастаноўкі боек, музыка, спецэфекты – усе перавагі праектаў з буйным бюджэтам.

Калі вы яшчэ не бачылі адну з самых яркіх сёлетніх анімацый, не абмінайце ўвагай **"Angry Birds у кіно"**.

Ад 26 мая маладзечанскі кінатэатр запускае дзве прэм'еры. Фэнтэзі **"Варкрафт"** – гісторыя, якая адбываецца ў свеце аднайменнай камп'ютарнай гульні. У карціне прадстаўленыя дзве расы – людзей і оркаў. Старажытнае зло прачнулася: у самым цэнтры каралеўства адкрыўся партал, з якога невядомыя істоты трапілі на зямлю. Пачынаюцца падзеі, якія назаўсёды зменяць лёс Сусвету.

Працяг чароўнай гісторыі – фэнтэзі **"Аліса ў Залюстаркоўі"** прапануе казачныя прыгоды пад слоганам "Вясна – самы час звар'яцець". Гераіня павінна вандраваць у часе, каб выратаваць сябра Вар'яцкага Шляпніка. У карціне здымаюцца акцёры з першай часткі экранізацыі – Джоні Дэп, Хэлена Бонэм Картэр, Мія Васікоўска і іншыя.

### КІНО ВІЛЕЙКІ

Самы бяспройгрышны варыянт для адпачынку – мультфільм **"Angry Birds у кіно"**. Смешна будзе ўсім, ад самых маленькіх да самых строгіх дарослых. Прычым мультфільм толькі знешне падрыхтаваны для дзяцей – яркая графіка, анімалістычныя героі, простая гісторыя. А вось дэталі скіраваныя на дарослых гледачоў, што падкрэсліваецца часам недзіцячым гумарам. Пры такой дваістасці розніцу на аўдыторыю зразумелы і пасыл стваральнікаў: усе можа быць зусім не такім, як мы прывыклі ўяўляць.

Магутны арол, якога абагаўляюць, можа апынуцца напышлівым эгаістам, а асуджаны персанаж з праблемай з кантролем гневу можа стаць адзіным, у каго засталося крытычнае мысленне і хто можа выратаваць усіх жыхароў вострава. Не верыць стэрэатыпам, змагацца за сваё і не быць перадузятым вучыць гэты неверагодна смешны мультфільм.

З дзецьмі вельмі раім паглядзець вытанчаную карціну **"Сарыла. Закінутая зямля"**. Маладым людзям будзе даспадобы фантастыка **"Першы мсціўца: Супрацьстаянне"** ці прыгоды **"Саламон Кейн"**.

**Аддзел інфармацыі.**

**Пра час і цану кінасеансаў глядзіце ў рубрыцы "Рэпертуары" на нашым сайце**




## Калі жаданне кахаць і быць патрэбным становіцца неадольным

> "Калі мяне пытаюцца, чым займаюся, я адказваю, што дапамагаю людзям закахацца. Напэўна, я назвала б гэта так".

Радкі адной з гісторый кнігі сучаснага польскага пісьменніка **Януша Вішнеўскага** "Неадольнае жаданне блізкасці" выдатна ілюструюць увесь змест – усе людзі, незалежна ад узросту і полу, імкнуцца знайсці сваё каханне, блізкага чалавека.

Адны з герояў марылі пра тое, што ў іх будзе жаданая работа, любімы чалавек побач. Для іншых каханне – гэта багаты мужчына з іншай краіны, які забяспечыць годныя ўмовы жыцця. Хтосьці выступае за свабодныя адносіны, імкнецца паказацца незалежным, аднак у душы яны чакаюць таго адзінага і непаўторнага.

Ламаючы "крылы", плачучы па начах, чакаючы важнага рашэння, вывучаючы анатомію і фізіялогію кахання, героі кнігі імкнуцца да яго.

**Галіна СІНІЦА.**

## ГАРАСКОП
20-26 МАЯ


**Авен.** Вам прыйдзецца добра папрацаваць, але і карысць будзе немалая. Праўда, вы адчуеце стомленасць. А ўсё ад таго, што бераце на сябе больш, чым у рэальнасці можаце зрабіць.


**Цялец.** Час вельмі паспяховы для любых пачынанняў, якія патрабуюць вашага актыўнага ўдзелу.


**Блізняты.** Каб не ўпусціць свой шанец палепшыць будучыню і вырашыць праблемы, вам трэба праявіць актыўнасць і ўладарнасць.


**Рак.** Вам варта заняцца пытаннямі фінансавага плана, бо гэтыя дні як найлепш падыходзяць для гэтага. І ніякіх негатыўных эмоцый!


**Леў.** З-за работы, з-за чужых праблем у вас не застанецца часу на жыццёвыя радасці. Выхадныя пастарайцеся сябе максімальна загрузіць, бо ў вас вялікі прыток энергіі, а ёй патрэбны выхад.


**Дзева.** Вы замкнутыя, у вас няма жадання мець зносіны з іншымі людзьмі – з гэтым не трэба змагацца, наадварот, гэта спрыяльны час для таго, каб заняцца самім сабой, разабрацца ў сваіх думках, пачуццях, марах. Гэты стан сам па сабе пройдзе, а вы зможаце паставіць канкрэтныя мэты і ўпэўнена пачаць рухацца па шляху іх дасягнення.


**Шалі.** Вам прыйдзецца скарыстацца сваімі аналітычнымі здольнасцямі, каб зрабіць правільны выбар у сітуацыі, якая складзецца. Ад гэтага будзе залежаць ваша далейшае жыццё.


**Скарпіён.** Вам прыйдзецца вырашаць мноства розных пытанняў. У складаных сітуацыях не спадзявайцеся толькі на сябе і свае здольнасці, звяртайцеся па дапамогу да тых, каму можаце давяраць.


**Стралец.** Калі вы ўжо моцна стаміліся, то плануйце адпачынак, усё добра прадумайце і кожны дзень напаўняйце сябе радасцю ад прадчування непаўторнага.


**Казярог.** Спрыяльны час для адпачынку. Вас ніхто і нішто не будзе хваляваць, розныя перажыванні і турботы пакінуць вас, і вы дазволіце сабе расслабіцца і забыць пра ўсе справы.


**Вадалей.** Вам прыйдзецца наведаць розныя інстанцыі для вырашэння спрэчных пытанняў.


**Рыбы.** Калі што ў вас і не заладзіцца, то паласа гэта хутка пройдзе. Трэба, каб у вас была ўстаноўка, што ўсё будзе добра.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

